Беларуская газета

sumezhzha



# СУМЕЖЖА плюс



Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...

Я.КУПАЛА

№ 16 (100) Заснавана ў 1991 годзе. снежань 2000 г.

## Напярэдадні новага стагоддзя і тысячагоддзя ў госці да «Сумежжа» завіталі выданні:






## *Слова рэдактара*

Не кожнае пакаленне людзей можа пахваліцца тым, што сустракала новае стагоддзе. І тым больш ужо далёка не кожнае пакаленне людзей мае такое шчасце, дакладней удачу, сустракаць новае тысячагоддзе. Мы належым да такога пакалення. Што нясе нам будучыня – не ведае ніхто. Але нельга жыць без спадзяванняў. Дык будзем жа спадзявацца і па меры сваіх сіл і магчымасцей рабіць так. Каб нашчадкі нашы ў будучых стагоддзях мелі права хоць у нечым ганарыцца намі.

Так атрымалася, што і газета "Сумежжа" новае стагоддзе сустракае ў юбілярах. У нас выходзіць соты нумар. Ды і ўвогуле 2001 год—год калі нашай газеце споўніцца дзесяць. Розныя часы перажывала "Сумежжа". Быў перыяд, калі яно ўвогуле не выходзіла. Цяжка сказаць, што чакае нас наперадзе. Але ў адным упэўненыя: наша газета патрэбна людзям. Кожны нумар незалежнай пастаўскай газеты чакае значна больш прыхільнікаў, чым недобразычліўцаў.

У сваю чаргу мы павінны зазначыць, што невялікі рэдакцыйны калектыў не змог бы зрабіць газету такой, якая яна сёння ёсць, без дапамогі чытачоў, прыхільнікаў. Часам людзі адкрыта не могуць выразіць сваёй станоўчай ацэнкі нашай дзейнасці—такія часы—але сам на сам, у прыватнай гаворцы людзі шчыра дзякуюць, падказваюць тэмы. І ўсё больш становіцца тых, хто прыходзіць да нас , пераадолеўшы ў душы рэшткі раба, зразумеўшы, што сядзець мышою пад венікам больш нельга. Гэтага проста не даруе нам час, не даруюць нам нашы нашчадкі.

У гэтым нумары ў госці да "Сумежжа" прыйшлі іншыя выданні Пастаў. Падумайце толькі – гэта вялікая справа—ў Паставах ужо не адно незалежнае выданне. І кожнае знаходзіць сваіх чытачоў , прыхільнікаў. "Крэсы", " Краязнаўца Паазер'я", "Прававое акно", "Сяброўка", "Тамара", "Шыпшына", "Ліхтарык". А яшчэ ж у Лынтупах пачала выходзіць местачковая газета "Беражніца", а яшчэ ж знайшліся людзі, якія хочуць выдаваць местачковую газету ў Варапаеве. Нехта можа заўважыць : а навошта столькі выданняў? Патрэбна, бо кожнае з іх знаходзіць свайго чытача. Канечне, час пакажа вартасці той ці іншай газеты. Магчыма, нехта адпадзе, але сам факт з'яўлення ў раёне, што не назавеш далёка спрыяльным па саміх адносінах да дэмакратыі і дэмакратычных выданняў, стольскіх незалежных газет не можа не радаваць. І мы ганарымся тым, што ўсё пачыналася з "Сумежжа". Нашы непрыяцелі могуць перашкаджаць, забараняць, прымаць усялякія захады да вынішчэння парасткаў новага. Часова яны могуць нават атрымаць перамогу—і такое не выключана. Але, як кажуць на Усходзе, караван ідзе…

Пад Новы год трэба думаць аб будучым, тым больш, калі надыходзяць новае стагоддзе і новае тысячагоддзе. Думаем аб гэтым і мы. У рэдакцыі газеты "Сумежжа", як і ў рэдакцыях іншых незалежных выданняў Пастаўшчыны нямала планаў, задумак . Ёсць ідэі, ёсць людзі—будзе і справа. Уласна кажучы, аб нашых намерах і тым, як гэтыя намеры будуць увасабляцца ў жыццё, раскажа вам гэты , юбілейны нумар газеты "Сумежжа-плюс".

Чамусьці мы прызвычаіліся ў навагоднія святы скіроўваць свой позірк на Усход. Можа, таму , што іх там болей значна, чым нас? Ну дык і наша рэдакцыя ўспомніла, што наступны год па ўсходнім календары – год Змяі. Спадзяёмся, што гэта змяя нікога не ўкусіць. Ні з нашых чытачоў-прыхільнікаў, ні з нашых чытачоў іншага кшталту.

Са святам вас, дарагія пастаўчане!

Не забудзем жа і пра святы душы, пра тое, што сустракаем мы і светлае свята Нараджэння Хрыстова, Каляды.

# Хроніка падзей 2000 года

*СТУДЗЕНЬ*

Апошні год тысячагоддзя пачаўся з размоў людзей пра дэнамінацыю, увядзенне ў абарачэнне грашовых знакаў новага ўзору і аб нечаканай адстаўцы Барыса Ельцына.

Зноў выраслі тарыфы на камунальныя паслугі і падаражэў на 36,1 % хлеб.

На Пастаўшчыне зафіксаваны першыя прыкметы эпідэміі грыпа, у райцэнтры захварэла ў два разы людзей больш парогавага ўзроўню.

Пастаўкі малака на малочны завод упалі ў пяць разоў і дасягаюць толькі 13 тон у суткі.

У Варапаеве спецыялісты вядуць падключэнне абанентаў новай АТС на тысячу нумароў.

Толькі напрыканцы месяца скончыліся здзекі з аўтамабілістаў – прыватнікаў, якіх цэлы месяц прымушалі на АТС расплочвацца за бензін толькі за валюту.

У райцэнтры прайшлі пышныя ўрачыстасці, прысвечаныя 60-й гадавіне з дня ўтварэння Пастаўскага раёна.

Праз двое сутак пасля іх у нядзелю на дарозе ў Лепельскім раёне ў салоне службовага "Мерсэдэса" трагічна загінуў у аварыі кіраўнік раёна Васіль Чэпік.

*ЛЮТЫ*

Льнозавод купіў льнокамбайн, актыўна закупляе насенне і гербецыды, бо ўзяў у арэнду 140 гектараў калгаснага поля.

Райвыканкам звольніў старшыню калгаса "Радзіма", а ў кагорце дзейнічаючых старшынь з ранейшых 27 засталіся толькі чатыры.

Сесія райсавета дэпутатаў дружна ўвяла мясцовы збор для прадпрымальнікаў за права ажыццяўлення гандлю.

Адкрыўся пункт газазапраўкі машын ва ўпраўленні "Паставырайгаз", якое дагэтуль больш чатырох месяцаў разам з насельніцтвам мучылася з-за недахопу газу ў балонах.

Народны хор ветэранаў адзначыў свой 20-ці гадовы юбілей.

У адстаўку адпраўлены прэм'ер-міністр краіны Сяргей Лінг, які прыязджаў да нас і на пахаванне В.Чэпіка.

У Паставах выйшаў першы нумар рэгіянальнай газеты NGOs Заходняй Віцебшчыны "Крэсы".

Шэраг школ раёна на тыдзень закрыты на каранцін з-за эпідэміі грыпу.

*САКАВІК*

Дырэкцыя Пастаўскага малочнага завода адкрыла ў горадзе свой трэці па ліку фірменны магазін "Алёнка".

Палова гаспадарак раёна не гатовая да веснавой службы і не вырашыла праблем з якасным насеннем, палівам, механізатарамі,трэцяя частка тэхнікі няспраўная.

Трохмільённы каляровы тэлевізар "Віцязь" сышоў з канвеера тэлезавода ў Віцебску.

У раёне прыступілі да фармравання штатаў двух новых лясніцтваў у Камаях і Ваўках.

У Паставах выйшаў першы нумар рэгіянальнай газеты "Краязнаўца Паазер'я".

*КРАСАВІК*

Рашэннем А.Лукашэнкі прызначана першая на Віцебшчыне жанчына – кіраўнік раённай "вертыкалі" Ванда Януковіч, якая пачынала кар'еру з пасады калгаснага эканаміста ў час кіравання Пастаўшчынай другой дамай – Валянцінай Клачковай.

Аўтапрадпрыемства № 17 аб'явіла аб зняцці з графіка перавозак адразу 16 рэйсаў аўтобусаў і аб рабоце транспарту па выхадных і святочных днях у рэжыме маршрутных таксі.

У другі раз за даўгі апісана маёмасць Варапаеўскага ДАКа.

На Дзень Канстытуцыі ў школах раёна замест абедаў сталі даваць толькі булачкі з гарбатай.

Паблізу Варапаева затрымана група высокапастаўленых браканьераў – начальнікаў з Глыбокага.

Яшчэ ў полі ляжаў снег, а галодны статак большасць калгасаў выгнала прагуляцца па голай зямлі.

Пасля цяпла да плюс 16 градусаў раптоўна выпаў снег з завеямі і моцным ветрам.

На Задзеўскім возеры ўтапіўся ўрач Генадзь Мядзелка, якога потым доўга не маглі адшукаць і пахаваць.

*ТРАВЕНЬ*

Будоўля – доўгабуд аздараўленчага лагера ў Касцянях атрымала сваю назву "Ветразь".

Знакаміты Алег Валодзька, ратуючы гаспадарку ад засухі, запусціў у працу адну з першых у Беларусі нямецкіх перасоўных дажджавальных установак.

Цэны з пачатку года ўзраслі на ўсе тавары і паслугі на 44,7 працэнты.

Наш праслаўлены ансамбль народнай музыкі "Паазер'е" даў вялікі канцэрт на святкаванні 725-годдзя латвійскага горада Даўгаўпілса.

Пасля найцяжэйшай зімоўкі 13 гаспадарак "мінусавалі" па надоях малака да ўзроўню папярэдняга года.

Участковы Вячаслаў Мацюшонак на сажалцы рыбгаса "Навінкі" страляў па трох напаўшых на яго браканьерах з нажамі.

*ЧЭРВЕНЬ*

Шэраг вядомых у раёне людзей, сярод якіх Э.Ляшковіч, М.Кішко, В.Пятухоўскі ды І.Падгайскі, раптоўна памерлі за кароткі час.

З пачатку года на Пастаўшчыне ў агні пажараў загінула ўжо 11 чалавек.

Рашэннем мясцовых улад аб'ўлена масавая мабілізацыя гараджан і вяскоўцаў на касьбу па няўдобіцах.

Пастаўшчыну ў другі раз наведаў сацыял-дэмакрат, дзяржсакратар міністэрства юстыцыі фэдэральнай зямлі НІжняя Саксонія , што ў ФРГ, доктар права Райнэр Літтэн.

Пасля перапынку адноўлены выпуск газеты "Сумежжа", якая была заснавана яшчэ ў 1991 годзе.

Пад час традыцыйнага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" у райцэнтры прайшлі ўрачыстасці з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння земляка, паэта-класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Дубоўкі, чыё імя было прысвоена раённай дзіцячай бібліятэцы.

*ЛІПЕНЬ*

У Паставах, як і астатніх гарадах вобласці, прапаў цукар, а калі ў крамах з'явіўся, то па новай, больш высокай цане.

У выніку моцных дажджоў з градам і навальніцамі ў вобласці моцна



пацярпелі 250 населеных пунктаў, а ў нас бяда прывяла толькі да адключэння электрычнасці.

Аб'яўлена дата правядзення выбараў у палату, дзе пастаўчан аб'ядналі ў адну акругу з Браслаўскім раёнам.

Раптоўна знік аператар канала ГРТ Зміцер Завадскі.

Многія настаўнікі школ раёна пайшлі ў чарговы водпуск, не атрымаўшы грошай.

Статус прафесійнага ліцэя атрымала Пастаўскае СПТВ № 165.

Група кіруючых работнікаў раёна пабывала з візітам у Італіі.

### ЖНІВЕНЬ

Хоць камбайнёры калгаса "Дружба" цудоўна пачалі жніво, адстаючыя гаспадаркі ўпускаюць лепшы час уборкі ўраджаю.

Пастаўчане-дэлегаты прайшоўшага Усебеларускага з'езда прапагандуюць асноўныя ідэі прынятага ў Мінску Акта Незалежнасці Беларусі.

Ніяк не ўдаецца ліквідаваць пачасціўшыеся перабоі з палівам.

Усіх жыхароў раёна ўскалыхнула аварыя атамнага падводнага крэйсера "Курск".

У лясах раёна, як ніколі , багаты ўраджай грыбоў.

На мяжы раскрыцця папынулася СП "Імпульс", каторы месяц прастойвае кансервавы завод у Паставах.

У Паставах выйшаў першы нумар жаночай газеты Заходняй Віцебшчыны "Сяброўка".

### ВЕРАСЕНЬ

Пачасціліся кватэрныя крадзяжы і, чаго раней не было, угоны іншамарак нават сярод белага дня.

Зноў адкладзены ўвод у эксплуатацыю цэнтра для дзяцей "Ветразь", якога ледзь не аддалі жанчынам-алкагалічкам, спынена будаўніцтва Дунілавіцкай СШ.

У першы клас прыйшло на 150 дзетак менш, чым год назад, а для дзяцей з аслабленым здароўем адкрыўся цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання.

Райпо аб'явіла аб зніжэнні цэнаў на малочныя вырабы, каб зусім не згубіць пакупнікоў, зноў паўтарыліся праблемы з газам, якога трэба чакаць тры тыдні.

Статак кароў калгаса "25–ты партз'езд" загінуў на шашы Полацк-Вільнюс пад коламі расійскага аўтафургона.

Пабачыла свет кніга варапаеўскага краязнаўцы Іосіфа Зямчонка "Ваколіцы Парыжа. Старонкі гісторыі Пастаўскага Паазер'я", выдадзеная пры дапамозе ГА "Ратуша" г.Гродна і пастаўскага прадпрымальніка А.Чаляя.

У Паставах пачалі выдавацца яшчэ два рэгіянальных выданні. Гэта прававая адукацыйная газета "Прававое акно" і культурніцка-экалагічная газета "Шыпшына".

*Ёсць новая слова,*
*Як тысячу год*
*абазначыць,*
*Ёсць новыя людзі,*
*Якія за намі*
*ідуць.*
*Але, пастаўчане,*
*Жывыя мы –*
*значыць:*
*Нам будзе рабіць*
*што*
*І што*
*перайначыць,*
*І што нашым*
*імем*
*Нашчадкі усё ж*
*назавуць.*
*А гэты мілеціум –*
*Хай неспазнаны,*
*трывожны –*
*Ён будзе наперадзе*
*Праўнукам нашым*
*І пра...*
*Вазьміся ж за*
*келіх*
*Ці бедны ты,*
*Ці ты заможны –*
*І пажадайма*
*нашчадкам*
*Дабра!*

### КАСТРЫЧНІК

Два дні ў горадзе з-за адсутнасці паліва не хадзілі аўтобусы.

Раён "вызначыўся" сваім актыўным удзелам у выбарах так званай палаты №2 і падтрымаў кандыдатуру Пятра Розынкі, які ўжо не камуніст.

Цэны на нафтапрадукты ў чарговы раз скокнулі ўгору, як і кошт гарэлкі.

Аб'яўлена ўсім аб хуткім развітанні са старымі грашыма.

Адбыліся чарговыя буйныя восеньскія кірмашы.

Пачалі жыць па зімоваму часу, а вось пенсіянераў засмуцілі, бо іх мізерныя пенсіі не падвысілі.

У дні "бабінага" лета адбылася цэлая серыя трагедыяў з гібеллю маладых людзей, пачасціліся выпадкі самагубства.

### ЛІСТАПАД

Па прычыне адсутнасці бензіну тры дні не хадзілі гарадскія аўтобусы нават на свята – чарговую гадавіну бальшавіцкага перавароту.

Пастаўскі касцёл наведалі пасол Італьянскай рэспублікі, папскі нунцый па Беларусі і біскуп Віцебскай дыяцэзіі.

Як ніколі доўга, увесь месяц калгасы мучыліся з зяблевым ворывам, уздымам льнотрасты нізкай якасці.

У другі раз за год істотна падаражэў праезд на прыгарадных і пасажырскіх цягніках, у чарговы раз падняліся цэны на нафтапрадукты і тарыфы на праезд у прыгарадных і міжгародніх аўтобусах.

На заводзе "Беліт" нарэшце адчыніўся магазін "Гарызонт", дзе маючы грошы, можна набыць апошнюю мадэль тэлевізара папулярнай маркі.

У Лынтупах з'явілася сваё выданне – местачковая незалежная газета "Беражніца".

### СНЕЖАНЬ

Апошні месяц адыходзячага тысячагоддзя зусім не адпавядаў сваёй назве і запомніўся веснавым надвор ем, дажджамі, туманамі і надта цёплымі днямі.

На пачатак снежня зноў пачала расці запазычанасць па заробках у вяскоўцаў, з якімі не разлічыліся за працу ў кастрычніку.

Не толькі суседзяў-расіян, але і прыхільнікаў мінулага на Пастаўшчыне парадавала вяртанне забытага гімна краіны часоў СССР.

Нарэшце ў райцэнтры прыватная мясаперапрацоўчая фірма "Заазёрнае" адкрыла свой першы фірменны прадуктовы магазін.

Пасля раскачкі ў мікрараёне вул. Юбілейнай шпарка пачалі будаваць краму.

Закрылі поўнасцю Чарнобыльскую АЭС, стала вядома і аб закрыцці ў 2005 годзе аднаго блока Ігналінскай АЭС.

Усё больш размоў сярод людзей наконт другіх прэзідэнцкіх выбараў.



# КАЛЯДНЫЯ ВЕЧАРЫ ПА – ШВЕДСКУ

Незабыўныя ўражанні да гэтага часу застаюцца ў мяне ад леташняй стажыроўкі ў шведскай газеце "Бергслагпостэн". У гэту буйнейшую скандынаўскую краіну, дзе шмат багатых, але не заўважыш бедных, з яе прыгожымі, некалькі суровымі, аднак добрымі, простымі людзьмі я закахаўся адразу і назаўсёды. Мы жывём амаль побач у самым цэнтры Еўропы, у многім падобныя, але яшчэ многаму павінны вучыцца ў шведаў, як разумна арганізаваць жыццё і праводзіць свой вольны час.

У адрозненне ад нас, зараз у Швецыю за выключэннем паўднёвага марскога ўзбярэжжа прыйшла зіма. На большай частцы тэрыторыі ўсталявалася снежнае покрыва. Горад Ліндэрсберг, дзе я жыў, што ў 250 км ад сталіцы шведаў – Стакгольма, крыху нагадвае нашы Паставы. Наогул багацейшая прырода гэтай краіны мала чым адрозніваецца ад ландшафтаў Беларусі. Вось толькі замілаванне прыродай, сваім домам у шведаў мае большае значэнне.

***У іх прыватная ўласнасць на зямлю, але кожнаму дазволена свабодна гуляць па лесе, адпачываць на возеры, захоўваючы парадак і чысціню. Больш паловы тэрыторыі Швецыі займаюць лясы, якія справядліва лічацца апошнім некранутым цывілізацыяй кутком Еўропы. Ужо 36 гадоў бездакорна працуе ў краіне закон аб ахове навакольнага асяроддзя, які дазволіў зберагчы для нашчадкаў 16 нацыянальных паркаў і амаль 900 запаведнікаў. Буйнейшы з іх быў створаны аж у 1909 годзе.***

***Закон абмяжоўвае новае будаўніцтва на берагах бясконцых азёр ( іх у Швецыі 60 тысяч і займаюць яны 8 % тэрыторыі), рэк, разгалінаванай сеткі каналаў і берагавой марской лініі працягласцю 7000 км. З іншага боку, гэта краіна – сапраўдны рай і натуральны запаведнік для дзікіх жывёлін. Іх развялося настолькі многа ( можа таму Лукашэнка ў злосці абазваў кантынент "звярынцам"), што прыйшлося паабапал выдатных разгалінаваных асфальтных дарог і аўтатрас паставіць спецыяльныя металічныя сеткі, якія перашкаджаюць ласям, касулям, зайцам і іншым звяркам перабягаць і гінуць перад бесперапынна ідучым аўтатранспартам. Уласных аўтамабіляў на 9 млн. шведаў больш за іншых у Еўропе – 4,5 мільёны.***

Але вернемся да людзей. Звычайна летам у ліпені – жніўні пачынаецца ў іх краіне масавы сезон адпачынкаў. Кожнаму гарантаваны аплочваемы адпачынак працягласцю 35 дзён, які можна браць па частках. Летам штогод паўтары мільёны шведаў ляцяць самалётамі адпачыць на цёплых міжземнаморскіх курортах. Але ўсе яны апошні пяты тыдзень, а то і дней дзесяць, пакідаюць для самых любімых калядных святаў. Пачынаюцца яны ў сем'ях са святкавання дня Люсіі.

Штогод раніцай 13 снежня разбудзіць усіх дзяўчынка, або мама, калі дома жывуць адны мужыкі, на галаве якой па традыцыі карона з гарачых свечак. У краіне на значнай частцы тэрыторыі цягнецца доўгая палярная ноч, а з'яўленне Люсіі сімвалізуе, што пасля працяглых халадоў і цемры абавязкова прыйдзе святло і цяпло. Падрыхтоўка да Каляд звычайна пачынаецца загадзя. Родныя і блізкія дамаўляюцца сустрэцца на гасціях у каго-небудзь па чарзе, або ў бацькоў, калі тыя



яшчэ жывыя і здаровыя. Імкнуцца прыехаць на Каляды і з Даніі, Фінляндыі і нават больш далёкіх краін. Кожнаму рыхтуецца нейкі падарунак, а ў краіне ў гэты час праводзіцца епіскапаў.

Пасля набажэнства абавязковы святочны стол з наборам лепшых страў нацыянальнай кухні. Гарэлку п'юць мала, яна вельмі дарагая. Спяваюць песні, танчаць, выходзяць пагуляць на вуліцу. Многія маюць уласных коней і едуць на прагулку. Астатнія дні сем'ямі не сядзяць дома, а выходзяць пакатацца на выдатнаабсталяваныя асветленыя каткі і лыжныя трасы. Бывае, што збіраюцца сябры, знаёмыя і ў адведзеных месцах распальваюць вогнішчы і пяюць харавыя песні. Шведы вельмі любяць танчыць, устрайваюць танцы на цэнтральным пляцы горада. Адрозніваае іх вельмі высокая культура паводзін. Што б яны дзе ні рабілі, пасля сябе заўсёды пакідаюць чысціню і парадак.

Яны цудоўныя і цікавыя субяседнікі, многа ведаюць і чытаюць. Летам і вясной аддаюць перавагу сустрэчам у кампаніях у шматлікіх кафэ і рэстаранах. Вельмі захапляюцца змалку і да старога ўзросту спортам. Зімой сустракаюцца ў дамашняй абстаноўцы. У іх прынята ў гэты час купляць абанементы і адпраўляцца паплаваць у басейнах, якіх адзін а то і некалькі мае кожны райцэнтр. Прызнаюся, кожны дзень пражыты за мяжой, мяне па-добраму здзіўляў, як так талкова і разумна змаглі шведы арганізаваць сваё жыццё, на практыцы адладзіць для кожнага свой знакаміты "шведскі сацыялізм". Доўга варочаўся на ложку ў шыкоўным гатэлі, не мог заснуць, бо думаў, наколькі ў розных дачыненнях з прыродай адзін з адным і проста з навакольным светам знаходзімя мы і яны. А яшчэ было шкада, што многія мае землякі нават радуюцца, што Беларусь за цывілізаваным светам не вядуць.

***Уладзімір Шык***

# Дзве постаці

Азірнёмся, пастаўчане, у мінулае. На прайшоўшыя сто гадоў. На многія стагоддзі назад. Хто з дзеячоў палітычных, культурніцкіх, асветніцкіх і іншых аказаў найбольшае ўздзеянне на жыццё нашага горада, нашага рэгіёна? Не, гэта зусім не спроба па модзе вызначыць чалавека тысячагоддзя і чалавека стагоддзя. Гэта проста аддаць даніну памяці тым, хто сапраўды быў для Пастаў фігурамі звышзначнымі, адзнакавымі.

Калі гаварыць пра мінулыя стагоддзі, то адказ можа быць толькі адзін – Антоній Тызенгаўз. Ён належаў да XYIII стагоддзя, але па значнасці сваёй дзейнасці, якая сягала далёка за гэта стагоддзе і далёка за межы не толькі Пастаў, Вялікага Княства Літоўскага. Гэта быў чалавек еўрапейскага маштабу. Ён загарэўся ідэяй перанесці дасягненні еўрапейскіх цывілізацый на беларускую зямлю. І многае зрабіў для гэтага. Іншая справа, што не ўсё атрымалася. Што паўсталі перашкоды і знайшлося шмат ворагаў. Што ж да Пастаў, то нашага горада такога, які ён ёсць сёння, без Антонія Тызенгаўза проста б не было. Не было б нашай плошчы, нашых славутых дамоў, якія і носяць сёння яго імя. Не было б палаца ды шмат чаго іншага. І невядома,можа б без пана Антонія заставаліся б мы проста вёскай Пасаднік.

Глянем цяпер у стагоддзе мінулае. Якое імя прыходзіць на памяць першым, пастаўчанін? Канечне, імя Уладзіміра Дубоўкі. Паэт еўрапейскага маштабу, ён уславіў наш куток, нашу зямлю, прынёс Пастаўшчыне славу назаўжды. І дакуль будзе заставацца на зямлі хоць адзін беларус, якому не абыякавая родная мова, датуль будзе жыць і імя Уладзіміра Дубоўкі.

Характэрна, што лёсы гэтых выбітных людзей зямлі Пастаўскай аднолькавыя ў тым, што абодва яны пацярпелі ад уладаў. Антоній Тынзенгаўз, магнат, багацейшы чалавек свайго часу, быў пазбаўлены каралеўскай міласці, знаходзіўся пад судом, яго пазбавілі многага. Уладзімір Дубоўка 20 гадоў правёў у халодных сібірскіх краях, дзе зведаў шмат ліха, дзе засвоіў усе прафесіі, якія былі там патрэбныя.

Ды пахілім галовы ў гэтыя дні перад гэтымі дзвюмя постацямі і скажам ім шчырае дзякуй за зробленае ў імя будучых пакаленняў.

***Марына Яголда***



***Антоній Тызенгауз (1733-1785)***



***Уладзімір Дубоўка (1900-1973)***

*Алесь Касцень*

# Местачковая плошча

У П. Драчова ёсць вядомая гравюра "Кірмаш у мястэчку". Гэта, наколькі помніцца, самая мяжа паміж XIX і нашым, ужо прайшоўшым, стагоддзямі. На гравюры яўна пазнаюцца дамы Тызенгаўза, гандлёвыя рады пасярод плошчы — маё, роднае. Але найбольш прыцягвае ў гэтым малюнку густы людскі натоўп, які зусім не на рэвалюцыйнае свята запаланіў усю местачковую плошчу. Твараў няма, але так хочацца іх убачыць. І добра ўяўляецца, як дзядзька з далёкай вёскі ўстаў да свету і пацягнуўся са сваім яшчэ вясёлым конікам па халоднаму ў начы пясочку да мястэчка. Боты аж да яго ўскраіны ганарова ехалі ў возе. Толькі тут памыў у светлай рэчцы ногі, дастаў анучы, абуўся чалавек, загрымеў абцасамі па брукаванай вуліцы. На плошчы распрог каня, высака задраўшы ў блакітнае неба аглоблі, кінуў яму бярэма сена, прыгледзеўся да суседзяў і прыслухаўся да цэнаў. А калі прадаў сваё цяля ці парку парасят, першым чынам убіўся ў краму, выконваючы жончын загад. Ну а затым ужо праходка па ўсім кірмашы, не столькі купіць, шкада яе, капейчыну, колькі паглядзець, каб увечары пры свеце газніцы мог распавесці сямейнікам і суседзям што і па чым у Лейбы, які новы тавар у Іцкі. І нарэшце, о, радасная і прадчуваная — сустрэча з кумам ці сватам. Наведанне карчмы, дзе да паўлітэрка казёнкі ладны селядзец ды сала, што прыхапіў з кубла. Ну вось, можна і запрагаць, выпраўляцца ў дарогу, каб да цямна быць дома...

На працягу некалькіх стагоддзяў мястэчкі адыгрывалі ў жыцці Беларусі выключна важную ролю, як своеасаблівыя акумулятары эканамічнага, жыцця, як адміністрацыйныя і культурныя цэнтры. І было іх— сотні. Сёння толькі частка ператварылася ў невялікія гарадкі-райцэнтры ды пасёлкі гарадскога тыпу. Вельмі шмат заняпала, зведзена абставінамі і ўладамі да рангу звычайных вёсак.

Мае родныя Паставы за тым, мікалаеўскім часам, гэта цэнтральная плошча ды чатыры нядоіўгія вуліцы, самі назвы якіх гаварылі аб сабе — Віленская, Браслаўская, Лучайская, Задзеўская. Акрамя гандлёвых радоў, корчмаў, крам і крамак на плошчы быў у мястэчку яшчэ вялікі вадзяны млын, саматужныя майстэрні ды палац Тызенгаўза. Пачынаючы ж са славутага Антонія яно доўгі час было ва ўладанні гэтага роду і яго нашчадкаў. Апошнім валодаў палацам і немалым маёнткам тут сваяк цара, напэўна, таму і ўдастойвалася мястэчка высокага гонару некалькі разоў прымаць у летнія лагеры аж пецярбургскіх бліскучых кавалерыстаў.

Першая сусветная і грамадзянская сваёй калатнечай, канечне ж, яе абмінулі мястэчка. Некалькі гадоў германскі фронт стаяў на самым яго ўскрайку, потым бачыла брукаваная плошча мітынгі акопнікаў, парадзелыя роты кайзераўскіх і польскіх салдат, коннікаў Гая, зноў улан пад бёла-чырвоным сцягам.

За польскім часам размяшчаўся тут павет, паліцэйскі пастарунак і нават невялікае гняздо дзефендзівы. Ужо не толькі кірмашовыя збоі ведала плошча. Два разы на год — у дзень Канстытуцыі, ды дзень нараджэння пана Юзэфа — праходзілі тут дэфеляды. А няго ж - цэлы уланскі полк стаяў ля мястэчка. Неўзабаве побач з плошчай узняўся і шматметровы помнік пад ожэлам бялым, не толькі як памяць аб забітых жаўнерах, але і як бетанаваны напамінак мясцоваму жыхарству аб трываласці і доўгавечнасці гэтай прысутнасці. А ў адным з дамоў Тызенгаўза, як выявілі мясцовыя руплііўцы гэтай самай прысутнасці, аказваецца, яшчэ ў часы сваёй маладосці хаваўся сам маршал Пілсудскі, праўда, тады сацыяліст і вялікі народніік. Настаўнікі з ксяндзом сталі вадзіць у дварышча гэтага замка чародкі дзетак. Польская адміністрацыя, на такая і шматлікая, вельмі хутка абрастала ў мястэчку раднёю, наязджалі ў наваколле асаднікі, польская мова ўдала правяла наступ на расійскую ва ўстановах. І ўжо пісарчук, які, ну, нейкіх пяць гадоў назад, пагардліва кідаў дзядзьку з прашэннем


Плошча. 1926 год.

"не понимаю", гэтак жа пагардліва, праўда, з-пад вусікаў на гжэчны манер, адмахваўся "не разумем".

Але сеялася і расло на сялянскім полі, рохкала і мычэла ў сялянскім хляве, не бяднелі мясцовыя лясы на баравікі, а балоты на журавіны — і па панядзелках шумелі ў мястэчку кірмашы. Менавіта па панядзелках. Яны аддаваліся гандлю. Ну а нядзеля — гэта богава. Толькі ўжо разлічваўся пакупнік з прадаўцом не мікалаўскім золатам ці асігнацыямі (дарэчы, вяскоўцы аддавалі перавагу апошнім — не так губляюцца, схаваць за халяву ямчэй), а злотымі. Новая ўлада, прымалася жыхарствам без асаблівых пярэчанняў. Падаткі былі ж такія, як і пры цары. А ў паліцыянта, які загадваў пабяліць комін, памянялася толькі форма. Бывала, што дастаўлялі вяскоўца ў мястэчка і не па сваёй ахвоце, у асноўным за парушэнне галоўнай дзяржаўнай манаполіі. Але дзядзьку, якога захапілі за зманлівым заняткам, і вялі на двухтыднёвую адсідку, было не так і крыўдна: папаўся ён адзін раз, а гары гэтай выціснуў і выпіў — ого, колькі Потым сталі пагаворваць, што садзяць і за "палітыку", але было гэта недзе далёка ў Вільні. А калі часам і прывозіў хто з гораду ўлёткі, то часцей за ўсё быў гэта не самы лепшы на вёсцы гаспадар і слухалі яго па-свойму. Увогуле адносіны да саветаў былі кплівымі. Чаму спрыяла польская прапаганда, якая пісала аб жыцці за блізкай мяжою, як гэта ні здзіўляе, у асноўным праўду.



Плошча. 1918 год. Святкуюць сканчэнне Першай сусветнай вайны. Разам беларусы, палякі, жыды.



Плошча. 30-я гады. Сям`я ля свайго дома. Не ведаюць, што хутка будуць выгнаныя.

Само ж мястэчка жыло ад кірмаша да кірмаша размераным і нават санлівым жыццём. Ацiхаў гандаль на плошчы, толькі сінагога ды добра згатаваны абед давалі нейкую разнастайнасць. Касцёл жа і царква поўніліся толькі ў святы і нядзелі людам наезным, вясковым.

Тут трэба сказаць, даследчыкі нядаўняй гісторыі беларускіх мястэчак у асноўным сарамліва, маўчалі, што пераважная большасць іх насельнікаў былі жыды. Прыняты яшчэ ці не пры Аляксандры закон аб рысе іх аседласці ў тагачаснай Расійскай Імперыі пазбавіў жыдоў магчымасці жыць у цэнтральных ці сталічных губернях. Так і складвалася, што вельмі шмат прадстаўнікоў выбранай богам нацыі станавіліся суседзямі беларусаў, але месціліся ў асноўным у мястэчках ужо з-за сваёй схільнасці да справы гандлёвай. Суседства, прама скажам, вялося не без узаемных прэтэнзій і кпінаў, насмешак ды гэтак далей, але без усялякай варажнечы. За прайшоўшыя стагоддзі не абышлося і без узаемнага пранікнення культур. І калі складаемся мы ў цесны **хаўрус** альбо бядуем аб нялёгкай долі **бахурка**, вуха наша ўжо нічога іншароднага не заўважае.

Але як бы там ні было, жыццё даваенных нашых мястэчкаў - гэта ў многім не наша, не бедарускае жыццё. Жыды, руская альбо польская адміністрацыі,

інтэлегенцыя, руская альбо польская школы. Рэдка можна было тут сустрэць жыхара-беларуса, а не кірмашовага госця. Даўна небеларускім, за нейкімі выключэннямі, пачувала сябе і мясцовае шляхецтва. Ды, уласна кажучы, месцілася яно больш па сваіх маёнтках ды засценках, праядаючы бацькоўскую спадчыну і марачы то аб Пецярбурзе, то аб Варшаве.

Вось у гэта мястэчка ў верасні 39-га і прыйшло некалькі танкетак ды густая калона салдат у абмотках, са змарнаванымі і схуднелымі тварамі. Вызваліцеляў сустракалі з цікаўнасцю і, як пісалі потым кожны раз пад час чарговага юбілею, нават з кветкамі. Але газеты газетамі, а вось землякоў, якія б помнілі тыя часы і помнілі пра кветкі, мне не сустракалася. Затое пра чырвонаармейцаў, якія тоўстае заходнебеларускае сала лічылі склееным, помняць. Помняць і пра вечарыны, на якіх вызваліцелі сядзелі злыя па вуглах. Нашы хлопцы і дзяўчаты ішлі ў скокі і таньчылі для іх зусім незнаёмае, нават дзіўнае. Навучылі, дарэчы, вызваліцелі, што і запалку можна ашчадна разлучаць на часткі.

Так пачыналася новае жыццё. Польская адміністрацыя альбо паўцякала альбо неўзабаве была вывезена. Тая адміністрацыя, якая прыйшла з усходу, прывучала пакрысе тубыльцаў да новага ўспрыняцця рэчаіснасці: сход, заем, калгас. Дарэчы, пра заем. У мястэчку і да сённяшняга дня як анекдот успамінаюць адзін са сходаў, які адбыўся ў будынку, што новай назвы яшчэ не атрымаў і заставаўся па старому "Домам людовым". Пасля доўгага выступлення-растлумачэння ўсходняга агітатара на карысць займа, гэта значыць, добраахвотна-прымусовай здачы грошай дзяржаве, ускочыў адзін з мясцовых рамеснікаў, Янкель, і з усёй сваёй шчырасці адданасці звярнуўся да грамады: "Ну што, панове, тут доўга гаварыць. Скінемся. Як кажуць з міру па нітцы — голаму на сарочку". Гэта адданасць і гэта веданне расійскіх прымавак былі заўважаныя. Неўзабаве Янкель ужо асвойваў новыя расійскія прымаўкі ва ўсёй іх сібірскай некранутасці.

А ўвогуле савецкая ўлада ў першае сваё прышэсце ў мястэчка, шмат зрабіць не паспела. Сагналі ўжо камсамольскую і яшчэ некамсамольскую моладзь на местачковую плошчу і агульным парывам разбурылі, што маглі на ей. Пасля вайны ўжо навукоўцы схапіліся за галаву. Аказваецца, увесь гандлёвы комплекс у Паставах быў апошнім такога тыпу ў Беларусі. На месцы ж гуртавання буржуазнага духу было вырашана разбіць камсамольскі сквер светлай будучыні. Да вайны паспелі павыганяць з дамоў на плошчы, з лепшых дамоў на вуліцах мястэчка "буржуяў", размясцілі там шматлікія партыйныя і іншыя ўстановы іх, аказваецца, для кіраўніцтва і натхнення ўжо савецкага, а не паспалітага люду спатрэбілася значна больш чым пры ранейшых рэжымах. Пры цары ды пры Польшчы на акругу патрабаваўся альбо гаспадзін валасны старшына з пісарчукамі альбо пан павятовы вуйт з пісарчукамі. Ну а сёння паны-таварышы на тую ж акругу ўселіся ў такой



Плошча. 1947 год, Кастрычнік. Калона педвучылішча, якое праз год разгоняць.

колькасці, што не месяцца нават у чатырохпавярховым гмаху, займаюць новыя і новыя памяшканні.

Мужыкі, што па старой завядзёнцы прыязджалі ў кірмашовыя дні ў мястэчка, чухалі патыліцы: прыватныя крамы пазачыняныя, а ў новых, дзяржаўных толькі пустыя паліцы ды зрэдзь часу які-небудзь дэфіцыт накшталт солі ці газы. Ну ніяк ім, малапісьменным не магло дапасці, што пустыя паліцы - сацыялізм. Сыходзячыся на парадзелыя і намнога бяднейшыя кірмашы, вяскоўцы пачыналі з трывогай пагаворваць аб нейкіх калгасах, якія збіваюць то ў адным, то ў другім канцы павета (да раёна яшчэ не прывыклі). Але слодыч калгаснага будаўніцтва, ім давядзецца пакаштаваць значна пазней. Шырокія планы пераўладкавання тутэйшага жыцця перапыніла вайна. Першыя саветы адступілі і местачкоўцы з сумным гумарам цэняць іх больш за другія, саветы, якія вернуцца ўжо надоўга.

Вайна абыйшла мястэчка вялікімі баямі, і разбурэннямі. Але чаша гора, наканаваная жыдам, была выпітая імі да дна. У двух равах ляжыць некалькі іх тысяч. І калі над адным ёсць яшчэ нейкая пліта, устаноўленая ацалелымі супляменнікамі перад выездам у Ізраіль, то над другім, які ўсяго ў нейкіх сямістах метрах ад цэнтральнай плошчы, звычайны курган, на якім новыя пакаленні местачкоўцаў косяць траву. Трэба сказаць, што ні да аднаго з гэтых равоў пасля 44-га, бальшавікі так і не прынеслі ніводнай кветкі памяці. Затое да магілы армейцаў-камандзіраў, якіх перазахавалі ў самым цэнтры плошчы — штогод клаліся гірлянды. Адбыўся водападзел на "сваіх" і "не сваіх" ахвяр мінулай вайны. Ды вернемся да яе гадоў. Зусім не ацалелі ў мястэчку палякі, якіх перад гэтым густым грабеньчыкам вычэсвалі энкавэдзісты, а потым і гестапа. Стараліся немцы, вызваляючы мястэчка ад "бальшавіцкай заразы". Але найбольш палегла простых беларусаў, з мястэчка, з навакольных вёсак. Многія і з гэтых магіл пасля вайны не трапілі ў разрад "сваіх". У самім мястэчку над некаторымі курганамі, пад якімі расстраляныя немцамі людзі, няма нават крыжа. А некаторыя ж з забітых палеглі за дапамогу партызанам. Нейкі ледзь не паганскі звычай заведзены быў бальшавікамі: устанавіць ад Масквы да самых да ўскраін па афіцыйнаму помніку, потым зганяць да яго натоўпы. А што натоўпы гэтыя ходзяць літаральна па касцях палеглых на вайне для "патриотического воспитания" ўжо не было важным.

Ну а мястачка ў 44-м сустрэла чарговых вызваліцеляў з усходу з вельмі малой колькасцю насельнікаў, сустрэла з пэўным скепсісам: а можа хутка зноў пойдуць? Чуткі пра англічан былі вельмі ўстойлівымі.

У далейшым мястэчка перажыло дзве хвалі новага засялення. Першая — гэта зноў жа шматлікія чыноўнікі і іх сем'і з усходу, партызанскія камандзіры і былыя вайскоўцы, якіх пасля фронту накіроўвалі "на укрепление западных областей". І другая больш магутная хваля — вяскоўцы, якія праўдамі і няпраўдамі кінуліся з наседжаных месцаў, ад роднай зямлі, пакідаючы і месцы гэтыя і зямлю, якая ім ужо не належала. Прывід калектывізацыі, пачынаючы з канца саракавых гадоў, вельмі хутка падняў колькасць жыхароў мястэчка, якое стала цэнтрам раёна, больш чым удвая.

Цяпер ужо савецкая ўлада ўсталёўвалася надоўга. Найперш, як і ўсё ў гэтай сістэме, пачыналі з ідэалогіі. Гандлёвая плошча стала плошчай імя Леніна. Ну а вуліцы ў строгай адпаведнасці: Віленская — Савецкай, Браслаўская — Ленінскай, Лучайская — Чырвонаармейскай, Задзеўская — 17 верасня. У першыя ж пасляваенныя гады паспрабавалі звярнуць і помнік пад ожэлам бялым. Некалькі танкаў трасамі не змаглі зрушыць польскі маналіт, сарвалі толькі арла. Салдаты папрацавалі з адбойнымі малаткамі, але зноў безвынікова. Вырашылі справу кардынальна: захінулі помнік ад плошчы высокім будынкам. Помнік і цяпер стаіць у дварышчы незразумелай большасці местачкоўцаў глыбай. Хуценька абвінавацілі мясцовага



**Помнік ля плошчы. Так ён выглядаў да бальшавікоў. Вакол - зруйнаваныя цяпер магілы.**

ксяндза ў шпіянажы на карысць Англіі і прыкрылі касцёл. Адна, новая царква засталася дзеючай, усё-такі з праваслаўем пасля вайны заігрываў сам бацька народаў. Але язык, звон, вырвалі надоўга. Ужо толькі ў часы перабудовы пачалі склікаць яго гукі местачкоўцаў досыць адвыклых ад елею. Старую ж царкву, таксама на плошчы, разбурылі, над ёй паўстаў будынак таго,



**Плошча. 1967 год. І дождж не перашкаджае святкаваць Кастрычнік.**

што для нас “важнее всех искусств”. А касцёл зведаў некалькі дзейсяцігоддзяў заняпаду. То зерне, то гарэлку ахоўвалі яго сцены. Калі ж збіўся немалы і самаахвярны гурт найбольш адданых пану Езусу каталікоў, мясцовыя большавікі ўвайшлі ў акопы. Пачалося доўгае і зацятае супрацьстаянне. З аднаго боку старыя і кабеты з другога — барацьбіты з профілем Ільіча ля сэрца. Адзін з гэтых барацьбітоў нават прынародна заявіў, што адчыніцца касцёл толькі праз... А потым я сустрэў гэтага барацьбіта на імшы з нейкім нават прасвятлелым абліччам. Вось толькі профіль, ён ці саграе сэрца таемна?

Новыя ўлады імкнуліся зацвердзіць сваю прысутнасць у мястэчку абавязкова і матэрыяльна. У шасцідзесятых гадах на адной са старон перыметра ўтульнай местачковай плошчы была разбурана крама, і на яе месцы паўстаў чатырохпавярховы невыразны будынак райкаму і райвыканкаму. Увесь ансамбль старажытнай плошчы быў разбураны. Да таго ж бурылі і далей, на месцы ранейшых дамоў паўсталі шэрыя ўнівермаг, універсам. Ах, ну, канечне ж, і Ленін. Любы начальнік, пачынаючы з сельсаветаўскага ўзроўню, марыў мець у сябе пад акном правадыра калі не ў бронзе то хаця б з бетону. Ля чатырохпавярховага змясцілішча мясцовага гонару і розуму стаяў спачатку Ульянаў (Ленін) з працяпнутай рукой. Апошнім камуністычным уладам гэта не падабалася нечым. Быў вакананы і ўстаноўлены такі ж велічны, але з рукою ў кішэні. Устанавілі яго... праз колькі дзён пасля разгрому гэкачэпістаў у Маскве, калі ўсё прагрэсіўнае чалавецтва пачало заўзята развітвацца з ілюзіяй нашага веку.

Кожны кіраўнік, які прыязджаў у мястэчка, імкнуўся пакінуць пасля сябе хоць якую-небудзь матэрыяльную памяць. Тонкія знаўцы чалавечых душаў, яны правільна разумелі, што ў душах памяць, па крайняй меры добрая, наўрад ці застанецца. Адна з раённых кіраўніц вырашыла закласці побач з помнікам Леніна капсулу нашчадкам. У які́м годзе ўдзячныя нашчадкі павінны былі прачытаць пасланне — ужо слаба помніцца, відаць, у 2017-м, бальшавікі любяць круглыя даты. Закладка капсулы адбывалася з небывалай пагалоскай і помпай. Панаехала высокіх гасцей, ая кожнага калектыву, як вядзецца, сагналі людзей пад чырвонымі сцягамі. Першай пасланне з веку ў век падпісала, зразумела ж, кіраўніца, але ганаровага права заслужылі і кіраўнікі драбнейшага рангу. Пагаворвалі, праўда, што потым, уначы бетоны маналіт—надмагілле над капсулай ускрывалі і пасланне перапісвалі, бо ў раёне якраз адкрылася гучная гаспадарчая справа, некаторыя з падпісантаў апынуліся на нарах. Але сёння ўсё гэта забыта, нават месца, дзе стаяла надмагілле капсулы, заліта асфальтам. А Ленін па-ранейшаму з рукою ў кішэні мкне да шэрага гмаху.

Апошні з партыйных кіраўнікоў засяродзіў сваю ўвагу на скверы, што калісьці разбілі камсамольскія неафіты. За чатыры дзесяцігоддзі дрэвы падраслі, стварылі своеасаблівую зялёную зону ў самым цэнтры мястэчка. Тут увечары маглі лёгка схавацца тыя, каму жадалася схавацца ад людскіх вачэй, тут на драўляных лавачках прыемна было пасядзець у спякотны дзень у засені лістоты. Пагаворваюць зноў жа, што была аддадзена каманда выразаць толькі старыя, спарахнелыя дрэвы, але выканаўцы ўзяліся за справу з такім імпэтам, што ад камсамольскага скверу нічога не засталося. Некалькі дрэўцаў і голы пляц з бетанаванымі дарожкамі. Былі спробы пасадкі новых дрэў. Ды толькі ці можа ацалець саджанец у цэнтры горада? Агаралі на пляцы фантан, які амаль ад узнікнення не дае ў гару ніводнага струменя. Помнім Кузьму Пруткова! І дапоўніла ў рэшце рэшт новае сацыялістычнае аблічча местачковай плошчы так званая “шуба”, якая з’явілася бадай што на ўсіх старых і новых будынках, што няправільным квадратам ахопліваюць гэты лапік зямлі. Чаму аж сюды, на Беларусь, занесла гуцульскую тэхналогію? Але партыйным і іншым кіраўнікам яна прыйшлася даспадобы.

Плошча забылася на кірмашовыя спрэчкі і жарты, амаль пяць дзесяцігоддзяў яна служыла выключна мэтам ідэалагічным. Праўда, ужо ў гады перабудовы

знаўцы чалавечых душаў - прымяркоўвалі да чырвоных святаў больш шырокія распродажы дэфіцытнай ежы, напояў ды іншых тавараў. І куды палякам да бальшавікоў! У апошніх чырванасцяжныя дэфеляды наладжваліся з такім размахам, што былому дзядзьку ашчаднаму да ботаў, калі бачыў ён гэтыя дэфеляды, напрыклад, на 7 лістапада — доўга чухаць патыліцу: кірмаш не кірмаш, свята не свята, а гэтулькі народу збіта ў адно месца. Ну а колькі дабра жонка б нашыла з гэтай чырвані — не палічыць.

Мне заўсёды здавалася, што дзесяцігоддзямі, праганяючы ля трыбуны з першымі асобамі на ёй, нас не толькі прывучалі да пакорлівасці і вернасці статкавым ідэалам. Рабілася гэта і для таго, каб некалькі разоў на год тыя, хто стаіць на трыбунах, пераконваліся: народ яшчэ трывае іх нягледзячы на здзекі і несусветную дурасць, трывае і церпіць.

Цяпер мінуўся і час дэфелядаў. Толькі купка былых трыбуннікаў ды ветэранаў у дні былых чырванасцяжных святаў ходзяць да помніка таму, хто трымае руку ў кішэні.

*P.S. Тут надрукаваны толькі ўрывак з майго артыкула "Местачковая плошча", які быў змешчаны ў "Сумежжы" ў 1995 годзе. І перадрук мы палічылі мэтазгодным менавіта таму, што стала магчымым праілюстраваць урывак здымкамі, якія з'явіліся ў фотатэцы газеты. Алесь Касцень.*




Плошча. 1978 год. Эпоха Брэжнева падыходзіць да канца.




Плошча. 1983 год. Першы і адзіны год кіравання Андропава.

# СТРАЧАНАЯ СПАДЧЫНА

Безумоўна, за прайшоўшае стагоддзе воблік нашага горада, навакольных паселішчаў вельмі змяніўся. Пабудавана шмат новага, досыць сучаснага. Але колькі страчана! Неяк не ўмеем мы шанаваць тое, што дасталося ад папярэдніх пакаленняў. Асабліва горкімі для мінуўшчыны былі савецкія часы, калі руйнаванне не толькі рэлігійных святыняў, але і ўсяго таго, што было непатрэбным бальшавіцкай ідэалогіі нават заахвочвалася.

Канечне, нам яшчэ ёсць чым ганарыцца, што паказаць гасцям. Ёсць у Паставах палац і дамы Тызенгаўза, ёсць Камайскі касцёл і іншыя касцёлы і цэрквы. Ды наколькі б прыгажэйшым, прывабным і для нас саміх было наваколле, калі б захаваліся помнікі, выявы якіх сёння друкуюцца ў "Сумежжы". І зразумела, што гэта далёка не поўны сумны мартыролаг архітэктурных помнікаў Пастаўшчыны. Але ж давайце ўгледземся ў іх хоць праз фотаздымкі, старыя гравюры.

1. Гандлёвыя рады, што размяшчаліся ў цэнтры цяперашняй плошчы імя Леніна ў Паставах.На здымку добра бачна, што за грунтоўная была гэта пабудова, як "звязвала" яна увесь комплекс старой плошчы. Разбурана ў 1940 годзе моладдзю, узнятай нова уладай.

2. Домік для парфаснага палявання таксама ў Паставах. Парфаснае паляванне—прывілегіяванае паляванне са спецыяльнымі


2


1

сабакамі. Тут праходзілі стажыроўку навучэнцы расійскай Акадэміі Генеральнага штаба. І гэта паляванне на конях было своеасаблівым іспытам для афіцэраў. Домік размяшчаўся насупраць цяперашняга аўтапарка № 17.

3. Мы добра ведаем Дунілавіцкі касцёл з яго своеасаблівай архітэктурнай адметнасцю. Але ж , аказваецца, быў у былым мястэчку яшчэ адзін касцёл — Найсвяцейшай Дзевы Марыі і святога Міхаіла Архангела, пабудаваны ў другой палове XIX стагоддзя, адноўлены пасля пажару ў пачатку XX стагоддзя.

4. Ля Дунілавіч ёсць невялікая вёска Крыкалы. У другой палове ХУIII стагоддзя тут быў пабудаваны







прыватны палац Тышкевічаў. Знішчаны ў час Першай сусветнай вайны.

5. Вёска Лучай. Тут у сярэдзіне XIX стагоддзя быў пабудаваны палац. У часы ўладання на нашых землях Польшчы тут месцілася агранамічная школа.

6. Абарончая вежа ў вёсцы Лучай. Пабудавана ў канцы XIX стагоддзя. Знішчана ў 1944 годзе савецкімі вайскоўцам. У яе былі знесены снарады з усёй акругі і ўзарваныя.

7. Касцёл Узвіжання Найсвяцейшага Крыжа ў вёсцы Груздава. Ад яго таксама нічога не засталося. Але цяпер вернікі імкнуцца аднавіць святыню.

8. Маёнтак у вёсцы Манькавічы. Пабудаваны ў другой палове ХУIII стагоддзя. Разабраны да падмурка ў час Другой сусветнай вайны.



# ДВАДЦАЦЬ РАЗУМНЕЙШЫХ ЛЮДЗЕЙ XX СТАГОДДЗЯ

## *ВЕРСІЯ АМЕРЫКАНСКАГА ЧАСОПІСА «TIME».*

Сімвалам навукі XX стагоддзя можна лічыць АЛЬБЕРТА ЭЙНШТЭЙНА, які літаральна перавярнуў уяўленні аб нязменнасці часу і прасторы. Праўда, сам сябе ён сціпла параўноўваў з жуком, які поўзаючы па паверхні яблыка, заўважыў, што ён круглы. Маючы адметны розум і энцыклапедычныя веды, Эйнштэйн дрэнна вучыўся і быў вельмі рассеяны. Так некалькі гадоў ён жыў наогул без грамадзянства – проста забыўся яго аформіць.

З рускіх вучоных у двадцадцы прадстаўлены пяцёра, калі не лічыць рускім эмігранта ІГАРА СІКОРСКАГА, які вынайшоў верталёт. У шэраг адметных вучоных уваходзяць: фізіёлаг ІВАН ПАЎЛАЎ,які вывучаў на сабаках законы вышэйшай нэрвовай дзейнасці, "бацька" сучаснай касманаўтыкі КАНСТАНЦІН ЦЫЯЛКОЎСКІ, стваральнік тэорыі ноасферы акадэмік УЛАДЗІМІР ВЕРНАРДСКІ, вучоны-атамшчык, стваральнік першых расійскіх атамнай і вадароднай бомб ІГАР КУРЧАТАЎ і Галоўны канструктар савецкіх касмічных караблёў СЯРГЕЙ КАРАЛЁЎ.

Датчанін НІЛЬС БОР ужо ў 37 гадоў атрымаў Нобелеўскую прэмію за даследванні фізікі атамнага ядра. Ратуючыся ад фашыстаў, якія захапілі Данію, ён распусціў залаты нобелеўскі медаль у бутэльцы "царскай гарэлкі" і вярнуўшыся з эміграцыі зноў выдзеліў з яе золата.

Заснавальніку квантавай фізікі МАКСУ ПЛАНКУ у пачатку стагоддзя давялося моцна паваяваць за сваё права займацца фізікай: настаўнікі заявілі, што ў фізіцы ўжо ўсё адкрыта і рабіць у ёй няма чаго. У лік разумнейшых людзей стагоддзя ўвайшлі таксама: англічанін АЛЯКСАНДР ФЛЕМІНГ, які вынайшоў пеніцылін, таксама англічанка РОЗАЛІНД ФРАНКЛІН, якой належыць галоўная роля ў расшыфроўцы тайнай структуры ДНК, псіхатэрапеўт з Аўстрыі ЗЫГМУНД ФРЭЙД і англійскі эканаміст ДЖОН КЕЙНС, які прапанаваў эфектыўныя механізмы ўмяшання дзяржавы ў эканоміку.

Медыцыну прадстаўляюць дзве зоркі першай велічыні: амерыканец ДЖОНАС САЛК, які стварыў вакцыну ад невылечнай хваробы – паліяміэліта, і хірург з Паўднёвай Афрыкі ХРЫСЦІЯН БАРНАРД,які першы ў 1967 годзе зрабіў перасадку сэрца ад чалавека да чалавека.

З тэарэтыкаў – даследчыкаў космаса мае сэнс выдзеліць двух. Амерыканскі астраном ЭДВАРД ХАБЛ адкрыў расшырэнне Метагалактыкі. Існаванне астрафізіка СЦІВЕНА ХОЎКІНСА само па сабе выклікае захапленне: поўнасцю паралізаваны чалавек, ён прыкаваны да спецыяльнага крэсла, і ягоны голас азвучвае камп'ютар. Але мозг ягоны не закрануты і заняты адкрыццём усё новых таямніц Сусвету: ягоная кніга "Гісторыя часу" стала бестселерам.

З адкрыццяў апошняга часу, якія былі зроблены ў 80-90 гадах можна прыгадаць два прозвішчы. Амерыканскі фізік ЛУІС АЛЬВАРЭЗ даказаў, што раптоўнае знікненне дыназаўраў адбылося па прычыне сутыкнення Зямлі з гіганцкім астэроідам. А самае апошняе па часе адкрыццё адбылося на нашых вачах: каля двух гадоў таму шатландзец ІЭН УІЛМУТ кланіраваў авечку Долі. Авечка, якая выклікала буру пачуццяў у ва ўсім свеце, жыве і паспела стаць "мамай".

**Паводле Ілана Полацка.**



## МАСТАК ЮСІФ АТРАХІМОВІЧ

Напрыканцы лістапада вядомаму пастаўскаму мастаку Іосіфу Атрахімовічу споўнілася 50 год. Гледзячы на гэтага маладога душой чалавека цяжкавата асэнсаваць той факт, што ў яго за плячыма паўвека мінулага тысячагоддзя. Яго можна ўпэўнена назваць маладым чалавекам, бо творчыя людзі жывуць не ў часе, а ў вобразах, думках, касмічных стыхіях. На карцінах Мастака – такі знаёмы, такі разнастайны і такі прыгожы свет. Свет чысціні і гармоніі, ці гэта акварэльны пейзаж, ці гэта абстрактныя кубічныя формы.

Большасць творцаў – сціплыя людзі. Іосіф адзначыў свой юбілей у вузкім коле бліжэйшых сяброў, мастакоў і літаратараў, якія пажадалі яму плёну ў творчасці і здзяйснення ўсіх творчых планаў.

Рэдакцыя "Шыпшыны" далучаецца да гэтых пажаданняў. На наша запытанне "Як пачуваецца творца ў дзень свайго юбілею?" мастак адказаў наступнае:

*У мастака і, ўвогуле, у творчай свядомасці ёсць сваё бачанне свету, свая рэакцыя на ўсё, што існуе ў жыцці, з чым чалавек сутыкаецца. Вось цяпер я сутыкнуўся са сваім пяцідзесяцігоддзем і разумею: мала зрабіў, мала пражыў, мала*



*пабачыў. Яшчэ не знойдзена мая эстэтыка. Яшчэ не выказана ў мастацтве мая сутнасць, яшчэ працаваць і працываць над сабою, эстэтыкай і карцінамі.*

*Колькі памятаю сябе, назіраў за светам, раслінамі, жывёламі. Дзівіўся сонцу, плюшчыў вочы і радаваўся рознакаляровым кропачкам-промням. Дзіцячае ўяўленне свету: Гарызонт – гэта край зямлі, гэта нібы сцяна, далей якой нельга ісці. Цяпер мы ведаем вельмі шмат пра Сусвет, але жывём не далей Гарызонту ў межах свайго свету.*

*Так прыйшоў да веры, што ўсё, што народжана, мае права жыць пад сонцам. Таму ў сваім жыцці стараюся быць паслядоўным.*

# СКРЫНЯ КАНСЕРВАЎ

## Сучасная калядная гісторыя

Сяргей і Дзед цяпер рэдка сядзелі ў кватэры. Ды, па праўдзе казаць, і сядзець у Сяргеевай аднапакаёўцы ўжо не было на чым. Крэслы яны даўна прадалі, драўляны ложак таксама. З усёй мэблі ў пакоі была толькі ламаная раскладушка, на якой спаў Сяргей і дзюркаваны, відаць, мышамі матрас, на якім начамі пастагнываў Дзед. Ды і на куханьцы ў "хрушчоўцы" застаўся толькі стары стол, які прапанаваць на продаж ужо было немагчыма. Кватэра гэта Сяргеева, дасталася яму пасля разводу і размену з жонкай. А Дзед з'явіўся ў ёй улетку, калі жыць абодвум было лягчэй. Уласна і сустрэліся яны, здаючы прыватнай прыёмшчыцы чарніцы, насабіраныя ў бліжэйшым лесе. Атрымалі за сабраныя ягады нейкую капейчыну, вырашылі выпіць разам. Потым дабавілі. Потым апынуліся ў яго. Сяргеевай кватэры… Так Дзед, у якога пасля вяртання з калоніі не было жылля ўвогуле, і застаўся тут, прыжыўся.

Летам было лацвей. А цяпер, цяпер на пачатку зімы ўжо лес не мог даць ні грыбоў, ні ягад. Скончыліся ў рэшце рэшт і зацягнутыя сельскагаспадарчыя работы. Так што і ў калгасе цяпер капейчыны не заробіш. "Бяскорміца" – характарызаваў сітуацыю Дзед. Сяргей быў у ацэнцы рашучай : "Галадаем, Дзед." А ў кватэры нягледзячы на адсутнасць работы не сядзелася. Гнала з кватэры прага перахапіць хоць нейкі кавалак, а калі пашчасціць, то і віна шклянку выпіць.

І па ранейшаму ішлі ў лес. Снежань выдаўся зусім без снегу, цёплы, нібыта на двары ўжо пачатак красавіка. Да таго ж у лесе ім былі вядомыя ўсе сметнікі, куды гараджане звозілі непатрэбнае. У гэтым непатрэбным яшчэ з лета навучыліся Сяргей з Дзедам адшукваць тое, што магло б прынесці нейкую карысць. Макулатуру, часам металы, якія ў іх гарадку прымаліся прыватнікамі ледзь не на кожнай вуліцы. Можна было падшукаць штонебудзь і з абутку, адзення. Асабліва любілі яны сметнік у лесе побач з ваенным гарадком. Як там ні кажы, а вайскоўцы і сёння жывуць адносна лепш за іншых мястэчкоўцаў. Таму і на сметнік ад іх трапляюць рэчы не зусім сцяганыя, а часам і вельмі цікавыя.

У той снежаньскі дзень за тыдзень, можа, да Каляд яны таксама рушылі ў лес. Хаця б маглі сабе наладзіць і выхадны: была ў кішэнях капейчына, па іх стану і немалая – учора ўдала папрацавалі ў аднаго з мястэчкоўцаў на шчапанні дроў. І напаіў іх гаспадар, і заплаціў па пяць тысяч кожнаму. Затое ж цэлую гару бярозы перабілі, пастараліся. Але пахмяліліся крыху з раніцы і ўсё-такі вырашылі наведаць свае лясныя ўладанні. Напярэдадні Дзед адшукаў нібыта яшчэ не адкапаны кабель, што заставаўся ў лесе пасля сыходу з яго ракетчыкаў. Увесь той кабель ужо выкапалі. Лес быў перарыты нібыта вялізнымі кратамі. Але вось Дзеду ўдалося адшукаць кавалак. Таму і вырашылі неадкладна ісці. "Не адны мы там шастаем, а раптам хто знойдзе. А медзь, брат, яна і ёсць медзь – яе адразу прадасі" – павучаў Дзед Сяргея па дарозе. Прыхапілі ў кусце на ўзлеску прыхаваную рыдлёўку, яе нёс Сяргей. У Дзеда за пазухай грэлася яшчэ бутэлька віна. "Глядзі, Дзед, не разбі наш ленч", - жартаваў Сяргей.

-Што за ленч?

-Гэта другі сняданак так называюць, - паказваў сваю дасведчанасць Сяргей. – У іх там не так як у нас, у іх і снядані два.

Але да месца, дзе павінен быў быць кабель яны не дайшлі. За кіламетры тры ад гарадка трэба было перасякаць асфальтаваную шашу. І тут, у кювеце ўбачылі, перакуленую машыну. Аварыя. Так, аварыя. Уначы, відаць, вадзіцель не справіўся з кіраваннем, зляцеў з дарогі. І, мяркуючы па паламанаму хмызняку, куляўся не адзін раз.

Нашы капачы падышлі бліжэй да машыны. Ні вакол, ні ў ёй людзей не бачна. Сяргей зазірнуў у салон.

-А крыві ёсць. Пабіліся людзі.

-Забралі іх у бальніцу ці самі пашыбавалі напрасткі.

Дзед тарганyў ручку дзвярэй.

-Не трэба. І так у людзей бяда. Ды і няма там нічога акрамя крыві.

-Ага, пайшлі хутчэй па кабель.

Яны спусціліся ў канаву, выйшлі з яе і тут за кустом ядлоўцу ў некалькіх кроках ад машыны ўбачылі белую картонную скрыню.

-Ого, - Дзед першы апынуўся ля яе. – Скрынечка. – крануў нагой. – І цяжкая, скажу я табе.

-Сухая. Не паспела вільгаццю набракнуць. Ці не з гэтай машыны, што ў канаве.

-З машыны не з машыны, а ў лесе. Значыць нічыя.

Дзед ножычкам узрэзаў клейкую ленту, якой была аббэрсана скрыня, адчыніў. Яна была шчыльна застаўлена бліскучымі бляшанкамі. Дзед дастаў дзве, адну працягнуў Сяргею.

-Што гэта?

Бляшанкі былі без этыкетак, але прама на метале панапісаныя незнаёмыя літары.

-Па-англійску напісана. Але што я з таго англійскага помню.

-Можа, піва?

-Не, Дзед, піва не ў такіх. Тут мо кансервы якія ці яшчэ што. Але чаго іх пад куст прыхавалі?

-Няма тут чаго рассусольваць. Збіраем і хада. Машыну адну надоўга не кінуць. Ды і міліцыя можа наскочыць у любую хвіліну.

-А кабель ?

-Што той кабель, хутчэй дадому з гэтымі бляшанкамі разбірацца.

Праз нейкую гадзіну ў пакойчыку з абдрапанай шпалерай ішла нарада. Па дарозе Сяргей з Дзедам сустрэлі аднаго са сваіх дружбакоў – Зялёнага, прыхапілі на рэшткі грошай яшчэ віна. І цяпер утрох сядзелі вакол скрыні з бляшанкамі, па-татарску падціснуўшы пад сябе ногі. Шклянкі не было, у круг ішоў кубак з адбітай ручкай.

- Эх, закусі няма ніякай.

- Пачакай, пачакай, можа, будзе табе зараз і закусь ды яшчэ якая.

Узяўся адчыняць бляшанку Зялёны. Паколькі заводскай адкрывалкі ў хаце даўна не было, прыспасобіў ён стары нож і гантэлю, якая засталася ў Сяргея яшчэ з тых часоў, калі дбаў ён не толькі пра сваё маральнае аблічча, але нават і пра фізічную



форму. Абдрапаўшы рукі, Зялёны ўсё-такі збіў і вырваў верхняе вечка бляшанкі. Усе схіліліся над ёй.

-І сапраўды, нібыта нейкая кансерва.

-Неяк больш да паштэту дараіць.

-Калі ты той паштэт еў. Бачыш, як пры халадцы, застыўшы. І мяса вунь кавалкі. Кансервы гэта.

-А паху асаблівага і няма.

-Ну, хто каштуе першы?

Троіца прымоўкла. Што ў бляшанцы ежа, зразумела. Але вось, што такое – усё-такі ў лесе знайшлася. Дзед махнуў рукой, першы палез лыжкай у бляшанку:

-Я за вас старэйшы, мне ўжо губляць няма чаго.

Нейкі час моўчкі пачакаў.

-Прэсна неяк, але яно – ежа.

Узялі лыжкі і астатнія.

-Ага, прэсна.

-Каб, можа пасаліць.

Але голад і выпітае віно бралі сваё. Неўзабаве адчынілі яшчэ адну бляшанку.

І тут у дзверы пастукалі.

-Хто там?

-Свой нехта, участковы грукае не так.

-Ты ўсё-такі, Сяргей, захіні скрыню за свой ложак.

Прыйшоў Мастак, нестары яшчэ мужчына з сівой барадой і даўгімі валасамі, колер якіх можна было б

вызначыць толькі пасля добрай лазні. Імя яго неяк і не помнілі. Мастак і Мастак, як, уласна кажучы, і Дзед, Зялёны. У гэтай кампаніі былі мянушкі. Толькі Сяргей не атрымаў яе пакуль, да таго ж усё-такі гаспадар кватэры.

Мастак доўга не мог паднесці да роту прапанаваны кубак віна – так трэсліся рукі. Потым неяк здолеў выцягнуць рудую вадкасць. Ад закускі адмовіўся. Крыху ачомеўшы, глянуў на бляшанкі.

- А што вы тут ясцё?
- Ды во кансервы.

Мастак узяў у рукі бляшанку, паднёс да блізарукіх вачэй. Памармытаў.

- Ха! Ды вы ж кацінымі кансервамі закусваеце. Так, кацінымі. Тут па-англійску напісана.
- Цьфу-ты, - плюнуў Сяргей.

Дзед не зважаючы, зноў пацягнуўся лыжкай да бляшанкі.

Зялёны задумаўся:

- Ага... Каціныя... Ну дык у іх там такія каціныя, як у нас самыя найлепшыя. Вунь паелі – і нікому нічога.
- Канечне, не атруцімся. Але ж усё-такі... каціныя.
- А, можа, іх падагрэць – смачней стануць.
- Ну ты і грэй, калі табе трэба. А мне і так добра.

Выпілі яшчэ. Зачэрпнуў лыжку замежнага наедку і Мастак. Нічога, жывыя.

Пад вечар, калі скончылася віно, зразумела чацвёрка, што так разыходзіцца нельга. Не тая кандыцыя, нутро патрабуе дабаўкі. Падлічылі пустыя бутэлькі. Нават калі здаць – не хопіць. Павісла працяглая і звыклая ў гэтай кампаніі паўза.

І тут аж прыўскочыў Зялёны:

- Мужыкі! Давайце мы гэтых кансерваў нашаму Міхалычу занясём. У бляшанках жа не бачна, што там. Скажам – замежныя кансервы – во штука! Пры нас жа ён адчыняць не стане. А потым павінімся, што самі не каштавалі, не ведалі. Дась самагонкі.

-Адразу можа, і дась.

-А потым ужо да яго не падыходзь, калі ўбачыць, што падманулі.

-Канечне, можна паспрабаваць. Чым чорт не жартуе.

-Хто пойдзе?

Адабралі дзесятак бляшанак. Ісці ўзяўся Зялёны. Не было яго з паўгадзіны. Міхалыч жыў побач, у тым жа мікрараёне, дзе і Сяргей. Мужык гэты, пенсійнага ўжо ўзросту, быў жыццём біты, ды і браў ад жыцця, што мог. Ён не толькі гандляваў самагонкай, віном. Але, казалі людзі дасведчаныя, скупляў і каштоўныя рэчы, не надта цікавіўся пры гэтым : ці са сваёй кватэры цягне падпіты мужык магнітафон ці што іншае. А Зялёны вярнуўся ўзрадаваны. Даў такі Міхалыч самагонкі. У той вечар балявалі доўга.

Мінула яшчэ некалькі дзён. Ужо перад самымі Калядамі вяртаўся Сяргей дадому. І ля ўласнага пад'езда ўбачыў кацяня. Зусім малое, яно, відаць, ужо доўгі час ашывалася ля дамоў, выкінутае ці згубленае гаспадарамі. На двары было холадна і вільгатна, кацяня ціснулася ўсім сваім худзенькім цельцам да дзвярэй пад'езда. Стоп, у нас жа ёсць іхнія кансервы, успомніў Сяргей. Трэба сказаць, што пасля той дэгустацыі яны да кансерваў так і не дакраналіся. Не тое, што есці было ўволю. Але неяк не ляжала да душы. Тады па п'янцы елі, а пасля – не. Сяргей падняў кацяня, якое даверліва пайшло да яго на руку, зайшоў у сваю кватэру. Дзед нешта варыў на кухні, адтуль чулася яго мармытанне. Дзякаваць Богу, газ не адключаюць, падумаў Сяргей. Ён пусціў кацяня на падлогу, сам палез за ложак, дзе ляжала перавернутая скрыня. Дастаў бляшанку. На кухні дзед сапраўды варыў нейкі суп. Сяргей узяўся адчыняць бляшанку.

-Што, на кансервы пацягнула, - спытаўся Дзед.

-Ды не, прынёс з вуліцы едака. Якраз для яго наша здабыча.

Ён зноў ударыў гантэляй па нажы. Тая перакулілася, нож саслізнуў. І Сяргей з Дзедам адначасова ўбачылі, што на стол з бляшанкі сыпіцца нейкі белы парашок.

-Во, бля, знайшлі скрыню, - Сяргей пакратаў парашок пальцам. – То кансервы каціныя, то яшчэ ямчэй.

-Пачакай-пачакай, - Дзед таксама нагнуўся да бляшанкі. – Які гэта можа быць парашок? А можа гэта...

-Што?

-Стой, Сярога, чакай, даражэнькі. А ну давай праверым усе бляшанкі.

З дапамогай нажа і ўсё той жа гантэлі, яны прабілі ўсе бляшанкі, што былі ў скрыні. Большая палова была з белым парашком.

-Што ж гэта такое? Можа, наркотык які?

-Во-во, даражэнькі, во-во, я пра гэта таксама падумаў. Ты тут пачакай, нікога не пускай і нікому нічога не гавары. А я зараз. Ёсць у мяне з калоніі яшчэ адзін знаёмы. Ды які знаёмы, круты ён вельмі, каб са мной знаёмства вадзіць. Але так, памятае мяне, мужыка. І ён жа цяпер у нашым гарадку ашываецца. Ён многае ведае... Так што чакай.

Чакаць Сяргею давялося амаль суткі. Як знік Дзед, прыхапіўшы адну з невядомых бляшанак, так і не з'яўляўся гадзіну за гадзінай. Між тым кацянё ахвотна паядала свае кансервы, нават міску вылізвала. Сяргей жа цярпеў на супе, які даварыў пасля Дзеда.

І вось той з'явіўся. Вясёлы, крыху п'яны і нейкі нават памаладзелы.

-Жывём, брат Сяргей, цяпер жывём! – Ён патрос у руцэ бутэльку з прыгожай этыкеткай.

-Што там было?

-Эх, Сяргей, ты ведаеш колькі мне грошай за тую бляшанку адвалілі. Во! – Дзед выцягнуў з кішэні скрутак пакамечаных купюр.

-Долары?

-І многа долараў, хлопец. Жывём! Каляды!

Яны, канечне ж, напіліся. Сяргей так і не змог выцягнуць з Дзеда ўсёй праўды. Той толькі крычаў п'яны пра



будучае жыццё. А раніцой іх разбудзіў настойлівы стук у дзверы.

-Хто?

-Свае, відаць, пахмяляцца.

-Ты толькі маўчы, Сяргей, як рыба.

-А няго ж.

На парозе стаяў ... сам Міхалыч. Гэта было неверагодна. Ён ніколі не пакідаў сваёй кватэры. Нават калі трэба было выбіць з якога п'янюгі доўг, было каму дапамагчы Міхалычу. А тут сам.

І што самае неверагоднае, прайшоўшы на кухню Міхалыч выставіў на стол дзве бутэлькі гарэлкі.

І пачаў Міхалыч пра кансервы. Маўляў, упадабаў яго кот такую ежу. Адбою няма. Нічога іншага не бярэ. Дык, можа, у хлопцаў засталося яшчэ крыху. Ён бы з радасцю ўзяў. І аддзячыў. Інстынктыўна Сяргей з Дзедам бачылі, што гэты ліс прыйшоў не проста так. Ледзь выправадзілі яго з абяцаннем, што пашукаюць, калі знойдуць, то будзе кату новая партыя кансерваў. А калі самагоншчык, уважліва агледзеўшы Сяргеявы "пакоі" пайшоў, узяла мужыкоў трывога.

-Неспраста ён прыходзіў, ой неспраста.

-Унюхаў што?

-Ды не ўнюхаў, мы, напэўна, тады з кансервамі і парашку яму далі. Ты ж, Сяргей, падаваў бляшанкі. Браў знізу?

-Браў, адну ніжнюю, здаецца ўзяў.

-Ну вось яму і перапала. А гэты хітрун адразу зразумеў, што за кансерва такая белая.

Але трывога неяк адышла. Падзялілі грошы, прыкінулі, што трэба купіць на свята, каб сустрэць яго ў рэшце-рэшт па-людску.

-Хоць будзе цяпер за што падарункі сыну купіць. Я яго ўжо паўгода не праведваў. Вось абрадуецца. І жонка не будзе ад малога гнаць, з падарункамі ўсё ж. – Гаварыў Сяргей.

Зазбіраўся і Дзед. Ён таксама вырашыў некага павіншаваць некага адведаць. Бляшанкі з парашком схавалі ў самым патаемным у кватэры месцы, там, дзе хавалі і пітво, калі хацелі не паказваць яго няпрошаным гасцям. Схованку гэту знайсці вельмі цяжка. А што дзверы ў кватэру не замыкаюцца – не так і важна. Сяргей, выходзячы апошнім, проста прыціснуў іх цвіком. Свае ведаюць – яго няма дома. А чужым у такой кватэры рабіць няма чаго.

Ён зайшоў ва ўнівермаг, намеціў, што заўтра купіць сыну. Потым пайшоў на "кропку", дзе заўсёды таўкліся валютчыкі, памяняць долары. Не тое, каб тых здзівіла, што ён прынёс долары, ён валацуга-Сяргей, які апускаецца і співаецца з паслядоўнасцю дзіўнай нават для ўсяго мясцовага "бамонда". Бывала, што і Сяргей за сваю работу атрымліваў у прыватнікаў долары, якія тут жа нёс сюды, на "кропку". Здзівіла колькасць абменьваемай валюты.

- Ну ты, Серы, забурэў. Добра свята сустрэнеш.



- Можа і нас запросіш?
- Прыходзьце. Налію.

У прадуктовай краме ён доўга выбіраў прадукты. Спіртное павінен быў купіць Дзед, які ўсё-такі вельмі даўна, праўда, працаваў на лікёра-гарэлачным заводзе. Напакаваўшы два вялікія пакеты, Сяргей пад здзіўленыя позіркі прадаўшчыц, якія прызвычаіліся бачыць яго найбольш з пустымі бутэлькамі, выйшаў з крамы. Пастаяў на ганку. Потым вярнуўся назад. Не, трэба ўсё-такі папіць піва. Вельмі даўна яго не піў. Усё дорага, усё больш віна купіць. З бутэлькай сеў да століка. Праз шкляную сцяну ён бачыў аўтамабіль, што стаяў тут жа ля ўвахода ў краму. Але не чуў і не мог чуць размовы ў гэтым аўтамабілі.

-Вось гэны, піва за столікам п'е.

-А другі?

-За другім сочаць таксама.

***Алесь Касцень***




Галоўная адметнасць 2000 года. Ходзяць упартыя чуткі, што ў 2001 цяжка будзе і з электраэнергіяй

# ЗАЧАРАВАНЫЯ ГРОШЫ

## Беларуская народная казка

У 20 стагоддзі шмат розных падзей адбылося ў жыцці беларусаў. Можна б мінулае, напэўна, успомніць і добрым словам, каб не адна акалічнасць: грошы ў нас зачараваныя. То купленае на іх бясследна знікае, то без агню яны згараюць, то нулі ў іх скачуць туды-сюды, то, наогул, здараецца, што выкарыстоўваць іх можна хіба што ў якасці падушкі. Вы не згодны? Ну, тады слухайце ўсю казку па парадку.

У пачатку стагоддзя жыў беларус-селянін Мікалай. Цяжкай працай назбіраў дачцэ Юзэфцы грошай на пасаг, да не абы якіх, а залатовак. І купіла Юзэфка з мужам за іх у 39-м годзе зямельку на сваю галаву. Праз зусім кароткі час знікла тая, ды так, што следу не засталося.

Доўга пражыла Юзэфа. Мела магчымасць спраканацца, што нейкі нячысцік мае ўладу над людскімі грашыма. Сама жыла з пенсіі, нічога не адкладвала. А вось суседка, бабка Наста на смерць сторублёвікі збірала. Ладны такі быў пакуначак у хусцінку завязаны.Пад падушку клала Наста грошы, баялася каб хто не ўкраў. Але злодзеі не спатрэбіліся. Папрасіла неяк бедная старая ўнучку сторублёвікі пералічыць, а тая сказала, што на іх цяпер толькі спаць і можна. Бо некалі не зразумела Наста, што іх трэба было на іншыя памяняць.

"Што гэта робіцца ? – думала Юзэфа – і вайны не было, і ўлада колькі гадоў адна і тая ж, а ўсё нешта на нешта мяняюць. Каб, здаецца, так хутка жыццё да лепшага мянялася."

Сем сыноў і дачок выгадавала Юзэфа. Збіралі яны грошы, але клалі не ў клуначак пад падушку, а ў дзяржаўную ашчадную касу. Аднойчы прыходзіць старэйшая дачка і кажа, што ўсе грошы згарэлі.

"Дзіва – дзіўнае", – зноў падумалася Юзэфцы – і пажару здаецца не было, а грошы без агню згарэлі." Ці праўда, панове? Якое нахабнае чараўніцтва ?

Па гэтаму з жыццёвага вопыту Юзэфа ўнукам дала наказ – ніколі грошы не збіраць. Бо зарабляем самі и для сябе, а яны аказваюцца ў кішэні ў іншых.

Праўда бывае і добрае і з нашымі грашамі робіцца. У Амерыцы колькі мільянераў? Па пальцах можна пералічыць. А ў нас кожны жыхар Беларусі змог сябе міліянерам адчуць.

"Во абламіліся замежныя капіталісты! Ведай нашых!"

Ды зноў умяшаліся чорныя сілы – нулі на грашах зніклі. Эх, каб гэтак хутка зваліліся нулі з цэннікаў у магазінах, а грошы тыя самыя ў кішэні засталіся! На жаль, мары з вобласці фантастыкі.

Некаторыя людзі кажуць, што трэба пастуха з добрай пугай наняць, каб пасвіў нулі на купюрах. А то скачуць туды – сюды, як благая каза ў агародзе. Іншыя раяць ад сваіх родных айчынных пазбавіцца, ды замежныя заводзіць, лепш за ўсё зялёнага колеру. Але ж так сама трывога на сэрцы : а калі ім наша надвор е не спадабаецца, ды страцяць яны зеляніну і возьмуць, напрыклад, пачырванеюць ? Што ж людцы рабіць? Дзе ж выйсце?

Праўда не ўсё так і дрэнна. Да вясны зноў, будзьце ўпэўнены, мільянерамі станем. І па іх колькасці дагонім і перагонім Амэрыку. На гэтай светлай думцы закончу сваю навагоднюю казку.

Са святам, дарагія землякі! З Новым Годам, з новымі надзеямі і новымі казкамі!

***Тамара Храпавіцкая***



## ГІСТОРЫЯ НАВАГОДНЯЙ ЁЛКІ.

Самы стары дакумент, дзе ўпамінаецца аб каляднай зялёнай прыгажуні, паходзіць з горада Селесты і датуецца 1521 годам. Адсюль, з сярэдневяковага Эльзаса, гэты звычай , які спачатку вельмі здзіўляў падарожнікаў, пачаў свой пераможны марш па Еўропе, пасля Пётры 1 пашырыўся ў Расіі, а ў X1X стагоддзі праклаў шлях за акіян. Спачатку елкі ставіліся за дзень да куцці толькі ў дамах рамесных гільдый і стаялі там да вадохрышча. Але хутка ўсе жыхары Эльзаса ўжо пераймалі заразлівы прыклад, ды так актыўна, што ў 1555 годзе ўлады вымушаны былі ўвесці штраф за высечку лясоў.

Першапачаткова ўпрыгожанне рабілася з сэнсам: на елках красаваліся яблыкі (сімвал грэхападзення і выгнання з раю) і аплаткі – аладачкі з прэснага цеста, якія выкарыстоўваюцца католікамі і пратэстантамі пры прычасці (сімвал выратавання). Пасля з'явіліся папяровыя кветкі, ласункі. З XIX стагоддзя на галінах пачалі развешваць пазалочаных анёльчыкаў, арэхі, серабрыстыя гірлянды. А шкляныя цацкі з'явіліся выпадкова, у год, калі не ўрадзілі яблыкі і арэхі. Шкладувы Латарынгіі ўмела падмянілі натуральныя плады і гэта мела такі поспех, што зараз мы ўжо не ўяўляем свята без іх.

## СОНЦАСТАЯННЕ.

22 снежня – дзень зімовага сонцастаяння. Сонцастаянне – момант часу, калі цэнтр Сонца пры бачным руху па нябеснай сферы праходзіць праз самы паўночны (летам) або праз самы паўночны пункт экліптыкі. Каля гэтых пунктаў Сонца рухаецца амаль паралельна экватару і як бы стаіць некалькі дзён у поўдзень на адной вышыні, адсюль і назва сонцастаянне.



Як раз у гэты дзень Сонца ўступае ў сузор'е Казярога і будзе там да 21 студзеня. Гэта знак задыяка для тых, хто нарадзіўся ў самую глухую пару года. Іх сімвал – зямля, планета – Сатурн, талісман – чорны кот, камень – гранат, ружовы кварц.

## НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ БЕЛАРУСАЎ.

Зімовыя калядныя тыдні ў мінулым вызначаліся багаццем і разнастайнасцю забаў моладзі. На ігрышчах танцавалі, жанілі Цярэшку, Бахара, гулялі ў "Яшчара", "Каралевіча", "Апанаса", вадзілі "казу", "мядзведзя", "жорава", "шчодру", хадзілі "цыганамі" ды інш. Сёння мы падаём апісанне найбольш папулярнай каляднай гульні – ваджэнне "казы".

## ВАДЖЭННЕ "КАЗЫ".

Некалькі дзяцюкоў збіраюцца ў якую-небудзь хату і тут прыбіраюць "казу". Самага кемлівага з хлопцаў адзяваюць ў вывернуты кажух, на ногі насоўваюць яму другі кажух, таксама вывернуты, і абодва кажухі замацоўваюць на поясе вяроўкаю. Твар гэтай казы вымазваюць сажай або надзяваюць маску; на галаву надзяецца асобная шапка, да я\кой прымацываны рогі, сплеценыя з лазы або з саломы. У завяршэнне ўбору хлопцу даецца ў рукі вупражная дуга, на якую ён сядае вярхом – "каза" гатова.

Абавязковымі спадарожнікамі казы з'яўляюцца "дзед", "важачы", "цыганкі", "музыкі" з "песельнікамі".

"Дзедам" выбіраюць таксама маладога хлопца, здольнага выконваць гэту ролю. Акрамя старой парванай вопраткі, дзеду надзяюць на твар маску з бярозавай кары, да якой прымацаваны агромісты бурак замест носа і даўгі жмут лёну або пянькі на месцы барады.

Асноўныя абавязкі "дзеда" – займаць гаспадара ў час паказу "казы" вясёлай размовай, жартамі і частаваць яго нюхальным тытунём. Для гэтай мэты ў дзеда маецца свая табакерка, напоўненая попелам. Ад такога частавання гаспадар, зразумела, заўсёды адмаўляецца, прычым, у знак удзячнасці стараецца падпаліць бараду дзеду, што яму часта і ўдаецца. Дарэчы, на гэты выбрык дзед не злуецца і, выходзячы з хаты, прывязвае сабе другі шматок пянькі замест згарэлай барады.

Маладыя хлопцы таксама прыбіраюцца цыганкамі, апрануўшыся ў паношаныя жаночыя сукенкі і выпацкаўшы сабе твар сажаю. Абавязкі гэтых хлопцаў – варажыць або ўгадываць будучыню.

За імі ўжо крочаць "важачы", "музыкі", "песельнікі" і вясковыя хлопцы.

У такім стракатым уборы ўвесь гэты гурт пачынае абыходзіць хаты з аднаго канца вёскі ў другі, прычым без папярэдняга дазволу на просьбу "Дазвольце нам, гаспадар, пагуляць" ніхто не заходзіць у хату.

Атрымаўшы дазвол, усе гуртам заходзяць у хату, і песельнікі пад аднастайны танец казы пачынаюць спяваць наступную песню:

Ой, ну-ну, каза,
Ой, ну-ну, шэра!
Паварочвайся,
Ні забывайся!
То на сей бачок,
То на той бачок,
То на рожачкі,
На капыцікі,
На залатыя,
На дарагія.
Дзе каза ходзіць,
Там жыта родзіць,
Дзе каза хвастом,
Там жыта кустом,
Дзе каза нагою,
Там жыта капою,
Дзе каза рогам,
Там жыта стогам.
Ой пайшла каза
У цёмныя ляса,
У вішнёвыя сада.
Ой у том саду
Хлопцы-малайцы
Хочуць казу біць,
Хочуць аблупіць,

Машы шубу шыць.
Тая козанька забаялася,
За ніцыя лозы
Схавалася.
Ой прыбег ваўчок
Ды за козаньку,
А ваўчанятка
За казенятка.
Ой прыбег заяц,
Стаў казу лаяць:
-Ой ты, казіца,
Старая псіца!
Не хадзіць было
Ў цёмныя лясы,
У вішнёвыя сады,
Не заведаць было
Ды й у вінаграду.
Узяла б сярпок
Пайшла б у сцяпок
Нажала б снапок
Ды змалаціла,
Сваё казенятка
Ды накарміла.

Так ходзячы і паварочваючыся з боку на бок, каза падае і спявае:

Пуць каза ўпала,
Здохла, прапала!
Гаспадар ідзе,
Каляду нясе,
А гаспадарыня ідзе,
Каляду нясе.
Я на рожанькі –
Два піроженькі,
Я на хвасточак –
Сала кусочак.
-Ой ты, казіца,
Ды й не ляніся,
Па ўсяму двару
Ды й расхадзіся!

Пры гэтых словах каза, што ляжала на падлозе, падымаецца і пачынае кланяцца Усе раскланьваюцца і спяваюць песню:

Прыступіся блізка,
Укланіся нізка:
Гаспадару так,
Так як пану,
Гаспадыні так,
Так як малінцы.

***Наталля Пракаповіч.***



## ОЙ, КАЛЯДА-КАЛЯДА !

На першую, вялікую куццю збірайцеся разам, сям'ёй. Не забудзьцеся заслаць на стол сена ці салому: здаўна верылі, што той, хто выцягне з-пад абруса доўгую сцябліну, жыць будзе доўга і шчасна. На покуце пастаўце неабмалочаны сноп, пакінуты ад жніва. Наварыце куцці ячнай, як на Дзяды, квасу з грыбамі ці з рыбай, напояў травяных. Куццю калядную здаўна палівалі цукровай ці мядовай вадой – сытой, і нам не след пра гэта забываць: вядома ж, мёд моцы ды красы надае.

...Як сядзе на покуць гаспадар, паважна пакліча ў хату, да святочнай вячэры Мароза, каб згодай з Вялікай прыродай заручыцца. Нездарма першую куццю поснай робяць, усе стравы на алеі гатуюць: раслінам пашану-перавагу аддаюць, зямлі кланяюцца, што спарадзіла ды выпесціла і зерне ячнае, і мак, і аўса жменьку на кісель...

...Шыбуе па вуліцах ганарыстых гарадоў, па вясковых завеяных сцежках вясёлы, дасціпны калядны гурт. Вызіраюць палахліва, як з нораў, з халодных шыкоўных кватэр адрачэнцы, цяплее пагляд у беларуса...Прыпупвае міфічная Каза, просіць падзякі за скокі ды песні, бывае, кінецца ды пампрэ, калі не даюць каляднага пачастунку, а пасля ўсхопіцца і давай таньчыць, колцы каўбасы, як найвышэйшы дар славячы... Звіняць бразготкі, збірае ласункі ў торбу Механоша, расхвальвае Кабылу Цыган...Разважна ходзіць Мядзведзь, прыкідваецца то лайдаком-выпівакам, то зацятым тупым чыноўнікам, што мовы людской не разумее, то добрым ласкавым ласуном - гулякам... Прыстасоўваецца, каб каго дзеўбануць, задзірасты Жораў, быццам помсціць людзям за тое, што сам калісці чалавечага роду адцураўся: так легенда апавядае.

Да поўначы ў ясным месячным сяйве ажывае архаічны мудры спектакль, вытканы з сяброўскіх жартаў і кпінаў па спрадвечных законах нашага народу. Сыпані жаданняў светлых прыгаршчамі, не скупіся, бо таго ноч калядная, шчодрая, патрабуе. На тое ж і завуць другую куццю шчодрай, тоўстай, ласай, што не скваппая Каляда на стравы беларускія (ажно 24, калі і не болей бывае іх на стале), на лагоду і прыязнасць, на шчырасць людскую лекавую, гаючую. І багацце ў хату, і цеплыню ў душу, і надзею дзявочаму сэрцу вядуць калядоўшчыкі да двароў.

Усё жыццё чалавечае, бясконцае, як нябёсы, апяваецца на святую Каляду: ад першага ўрачыстага ўсхліпу да развітальнага запавету. Ёсць пачэснае месца ля багатага стала і Дзядам: калі ўсе прытомяцца і палягуць спачнуць, прыляцяць іх спагадныя душы каляднай ежы пакаштаваць, на зберажэнне звычаю падзівіцца. Ціхутка прысядуць яны на лаву, толькі зорка таемна будзе ўглядацца ў вочы абразу, ручніком агорнутаму. Толькі свечка на покцуці дрыготка страпянецца...

Як заціхне зморанае прызнанне "Ой, мы шчадравалі, у акно заглядалі", заснежаным світанкам пойдуць дзеткі па дварах і са жменькаў поўных засеюць зернем будучыні зямлю – засеўкі справяць на пачатку года. І будзе снаваць свой мяцельны кругазварот Каляда да трэцяй куцці, галоднай ці вадзяной, калі апошнія трэбы жывёле вынесуць. Абыдуць велічна кароўку, каня, козаў ды авечак з кашай у гаршчку, акрапяць скацінку свянцонай вадой з жытняга крапіла, аддадуць сена-салому з каляднага стала.

Стануць успамінам дванаццаць зімовых святак, калі кросны моўчкі чакалі жаночых рук, калі не гудзе вечарам калаўрот, калі хадзіла-блудзіла па вёсках-гарадах смелая Батлейка...

Даўно некалі бярвёны смалістыя запальвалі ў дварах. І гарэлі яны дванаццаць дзён святочных, шлючы сонцу вогненны водгалас чалавечай турботы пра ўраджай на ніве, у хаце, у душы. Цяпер толькі кволая свечка падае знак нябеснаму свяцілу ды зорка рассыпле ўсмешлівыя прамяні...

***Антаніна Хатэнка.***



# ВІГІЛІЙНЫЯ СТРАВЫ

## Квас з грыбамі

Сушаныя баравікі ці іншыя сушаныя грыбы памыць, заліць халоднай вадою і пакінуць на 1 – 2 гадзіны. Потым зварыць іх, дадаўшы соль, цыбулю і прыправы. Калі грыбы зварацца, частку іх дастаць з вады – з іх можна зрабіць салату, дадаўшы цыбулю і алей. Поліўку з грыбамі трэба падкалаціць мукою. Узяць 3 – 4 сталовыя лыжкі мукі, дадаць халоднай вады і добра размяшаць, дадаць крыху гарачай поліўкі, зноў размяшаць і ўліць, памешваючы, у каструлю.

Поліўка павінна кіпець 3 – 5 хвілін на малым агні.

## Ламанцы з макам.

Для цеста патрэбна 120 грам мукі, 120 грам цукру, 1 яйка. Замясіць крутое цеста, тонка раскатаць яго і нарэзаць на палоскі (2 х 7). Пячы ў духоўцы на блясе, змазанай алеем, да залацістага колеру.

Шклянку маку заліць кіпнем і паварыць яго 10 – 15 хвілін на слабым агні. Адцадзіць, некалькі разоў прапусьціць праз мясарубку, дадаць 2/3 шклянкі падагрэтага мёду, дадаць крыху ванільнага цукру, крыху разынак, папярэдне замочаных у роме ці каньяку, 100 грам арэхаў. У мак можна дадаць чарку каньяку, а калі загусты, то можна разьвесьці яго вяршкамі. Перад тым, як падаць на стол, пераклаьці месіва ў вазачкі і абкласьці яго печывам.

# СВЯТОЧНЫЯ СТРАВЫ

## ГУСЬ (КАЧКА), НАЧЫНЕНАЯ КАПУСТАЙ



*1 гусь або качка, 0,5 л кіслай капусты, 100 г шмальцу, 1 цыбуліна, 1 морква, соль, перац, цукар.*

Квашаную капусту (калі вельмі кіслая — прамыць) пакласці ў каструлю, дадаць падсмажаную на шмальцы змельчаную цыбулю, уліць трошкі гарачай вады і патушыць пад накрыўкай. Памешваць, каб капуста не прыгарэла. У канцы тушэння пакласці нарэзаную і падсмажаную моркву, перац, цукар. Падрыхтаваную гусь пасаліць, нафаршыраваць тушанай капустай, разрэз зашыць, ножкі і крыльцы звязаць, пакласці ў гусятніцу і смажыць у духоўцы, паліваючы сокам (калі яго мала, уліць трошкі гарачай вады), 2—3 гадзіны. Качка смажыцца хутчэй.

Гусь, начыненая капустай, падаецца толькі гарачай.



## ГУСЬ З ЯБЛЫКАМІ

*1 гусь, 1,5 кг яблыкаў, 2 ст. лыжкі тлушчу або 3 ст. лыжкі смятаны, соль.*

Тушку гусі абпаліць, ачысціць, затым выпатрашыць, добра прамыць. Шыю, ножкі да каленнага сустава і крыльцы да першага сустава адсячы. Падрыхтаваную тушку нацерці соллю зверху і ўнутры, перавязаць суровай ніткай такім чынам, каб прыціснуць крыльцы і ножкі, пакласці на бляху спінкай уніз, паліць растопленым тлушчам або змазаць смятанай і смажыць, пакуль гусь не зарумяніцца. Затым падліць каля 0,5 шклянкі вады і, зменшыўшы агонь, смажыць яшчэ 1,5—2 гадзіны, паліваючы сокам і тлушчам.

Пакуль гусь смажыцца, падрыхтаваць яблыкі: разрэзаць на 4 часткі, выдаліць асяродак. Яблыкі пакласці на бляху з гуссю і запячы, паліваючы тлушчам. Гэтак жа можна прыгатаваць качку.

# Навагоднія напоі

### Напоі з каляровым ільдом

Прыгатаваныя дома ліманады ці сокі можна падаваць з каляровым ільдом, атрыманым пры замаражванні падсалоджаных садавіннна-ягадных сокаў, кавы ці малака.

Разведзеныя сокі, малако, каву падсаладзіце. У стакан палажыце 2 – 3 кусочкі ільда рознага колеру. Каляровы лёд можна падаваць у посудзе з тоўстага шкла, крышталя ці мельхіёра. Разам з ільдом падаюць шчыпцы для ільда.

### Гарачы пунш.

***У шклянку наліць 20 г ванільнага сіропу, 20 г лімоннага сіропу, дадаць 3 шт. гваздзікі, кусочак лімоннай коркі, заліць гарачай моцнай гарбатай.***

### Шакаладны напой (10 – 12 порцый).

200 г сметанковага масла з 150 г цукру растапіць у кацялку на слабым агні. Увесь час памешваючы, дабавіць кавалачкі шакаладу (200 г) і даць ім раствaрыцца. У канцы дабавіць 1 бутэльку водкі і ўсё старанна перамешаць да атрымання аднароднай масы, не даючы ёй закіпець. Уліць у чашкі і падаваць гарачым.

### Сонечны напой

1/2 шклянкі цукру награваць, пакуль не ператворыцца ў ліпкую карычневую масу. Да 2 1/2 л вады падсыпаць крыху лімоннай кіслаты, ўскіпяціць, дадаць цукру і зноў кіпяціць, пакуль увесь цукар не растане. Затым дадаць 2 лімоны, нарэзаных маленькімі кусочкамі, і падліць 100 г каньяку. Піць гарачым.



### Лімонны боуль.

Добра вымыты лімон нарэзаць тонкімі ломцікамі і змясціць у шкляны посуд. Насыпаць туды 100 – 150 г цукру, даць насыціцца яму прыкладна 2 гадзіны. Затым дабавіць сок 2 апельсінаў і бутэльку сухога белага віна. Працадзіць. Перад падачай дабавіць бутэльку шампанскага (яго можна замяніць газіраванай вадою, або іншымі шыпучымі напоямі).

### Глінвейн ( 7 – 8 порцый).

**1 літр чырвонага віна (тыпу "Гамза") ускіпяціць з 200 г цукру, 6 - 7 шт. гваздзіку і кусочкам карыцы. Падаваць гарачым ў чашках, як і грог.**

### Грог ( 10 – 12 порцый).

**1 літр вады ўскіпяціць з 300 г цукару. Да гарачай вады дабавіць 2 шклянкі каньяку і падаваць гарачым ў чашках альбо нізкіх шкляных бакалах.**

### Фліп з шампанскім.

Узбіць 1 жаўток і 1 чайную лыжку цукру, дабавіць 20 г лікёру, сок 1 апельсіну і кавалак ільду, змяшаць, уліць у халодную шклянку і папоўніць яе шампанскім.

### Фліп з малаком.

20 г каньяку, 2 сталовыя лыжкі сгушчонага малака, 1 яйко і 1 чашку малака добра змяшаць, працадзіць цераз мелкае сіта. Падаваць пасыпаным нацёртым мускатным арэхам.

### Гарачае піва ( 10 – 12 порцый).

Ускіпяціць 1 л піва з 5 шт. гваздзіка з карыцай, працадзіць, патрымаць на слабым агні. Узбіць два жаўткі з 200 г цукру, паступова дабавіць гарачае піва. Падагрэць, пакуль маса не загусцее ( трэба сачыць, каб не закіпела). Падаваць у вялікіх шклянках.

### Коблер з ромам.

Змяшаць 1/3 шклянкі ільду, 20 г рома, сок 1 апельсіна і 1 лімона, 1 чайную лыжку цукровага сіропу і 100 г сухога чырвонага віна.



Аповяды новага жыцця

# НЯУДАЧА З РАССОХЛАЙ ПАДЛОГАЙ

На раўнюткай, нядаўна адрамантаванай шашы, пры ясным асвятленні і адсутнасці ападкаў сутыкнуліся два аўтамабілі. "Пацалаваліся" прама на асявой лініі.

З аднаго аўтамабіля нерашуча вылез, мацаючы дарогу адразу двума нагамі, Іван Мар'янавіч. Цэлы, толькі крыху падрапаны. І зусім не спужаны, бо п'яны. З другога аўтамабіля, трымаючыся абедзьвума рукамі за дзверцы, высунуўся Мар'ян Іванавіч. Цэлы, крыху падрапаны. Раззлаваны і п'яны.

Праз пяць хвілін на месцы здарэння сігналіла і бліскала машына ДАІ. Абдрапаных вадзіцеляў на "хуткай" павезлі адсыпацца ў медвыцвярэзнік. Машыны сцягнулі на ўзбочыну. Яны пацярпелі цяжэй, чым гаспадары.

Назаўтра раніцой, заклееныя пластырамі Мар'ян Іванавіч сядзеў у кабінеце начальніка ДАІ. Меў ён, Мар'яне, падставы разлічваць на спагаду і нават лёзнасць начальніка.

-Ну ты даеш, Мар'ян. Я ж табе казаў : нельга піць за рулём. Даездзіўся.

-Было, што тут казаць. Але ж мы свае людзі. А той гаўнюк прама на асявую выехаў.

-І ты выехаў на яе, Мар'ян. А той гаўнюк, як ты кажаш, таксама п'яны быў...

-Ну дык у чым справа! Штрафуй яго. І няхай майго "фарда" аднаўляе.

-Так то яно так, - задуменна сказаў маёр. – Але ж...

Гэтым жа часам памазаны зялёнкай Іван Мар'янавіч сядзеў у кабінеце іншага міліцэйскага маёра.

-Даражэнькі, ты ж помніш, я табе ні ў чым не адказваў. Выручай. Ну, выпіты быў. Але ж я заўсёды марудна езджу. А той гаўнюк прама насустрач...

-Па асявой.

-Можа, і па асявой. Але ж навошта мне яму плаціць. Няхай ён мне. А я ўжо ў даўгу не застануся.

-Так, то яно так. Ды тут загваздка адна атрымалася.

-Што за загваздка? Кажы, колькі трэба. Але няхай той вадзіла мае "міцубісі" адновіць...

Пад вечар у высокім кабінеце сышліся два міліцэйскія маёры. Гаспадар кабінета строга агледзеў іх. Але сесьці прапанаваў. Узяў у рукі першыя дакументы.

-Твой?

-Мой, - асцярожна глянуў на начальніка адзін з маёраў.

Начальнік узяў у рукі яшчэ дакументы.

-Твой?

-Мой, - апусціў вочы долу другі маёр.

-І што будзем рабіць ?

-Мой для фонда нашай падтрымкі заўсёды стараецца, - уставіў першы.

-А колькі мой свежай рыбы ў аддзел перавозіў, - адказаў другі.

Чашы вагоў Феміды не пахіснуліся ні ў адзін бок.

-Можа, разбяруцца самі?

-Ага, яны такія разборкі ўчыняць, што раздымаць давядзецца.

-Уз'еліся адзін на аднаго.

Задумаліся ў кабінеце.

-Няхай манетку кінуць, - усхапіўся адзін з маёраў. – Яна рашыць, хто невінаваты, другі за ўсё і плоціць.

-А што? Справядліва.

Неяк угаварылі Мар'яна Іванавіча і Івана Мар'янавіча, улагодзілі : вы абодва людзі паважаныя, на асобных правах. Ну надарылася такое. Што ж, цяпер – паспытайце лёс.

І вось сабраліся пацярпела – абдрапаныя са сваімі прыхільнікамі, а таксама рэферы ў пагонах.

А што кідаць?

Беларускіх манет не існуе. Старую савецкую? Неяк няёмка – усё-такі паважаныя людзі, новыя беларусы. Іван Мар'янавіч выграб з кішэні жменю расійскіх манет. "Можа якую з гэтых?"

-Не, - запярэчыў Мар'ян Іванавіч, - і дастаў бліскучы долар. – Вось ён нас і рассудзіць. Гэты не падвядзе.

Вырашылі кідаць толькі адзін раз. "Арол" – перамог Мар'ян Іванавіч, "рэшка" – Іван Мар'янавіч. Падкідаць манету будзе асоба незацікаўленая, "сутачнік", якога закратавалі за тое, што па п'янцы пераблытаў прыбіральню і будку рэгуліроўшчыка дарожнага руху. Рукі, праўда, у асобы трэсліся. Але неяк ухапіў ён манетку, смаргануў у гару. Натоўп затаіўся ў чаканні.

Манетка бліснула ў цьмяным калідоры пастарунка, перавярнулася, слізганула ўніз і... знікла.

Асьвяцілі падлогу ліхтарыкам. Няма.

-У шчыліну праваліласа.

-Ага, бач, якая падлога рассохлая.

Што рабіць? Усё-такі долар. А галоўнае – пытанне аб віноўніку аварыі не вырашана. Вырашылі ўзрываць падлогу. Той жа "сутачнік" адарваў дошку, з ліхтарыкам палез у цёмную дзірку.

-Ну, знайшоў?

-Ого...

-Што, "ого"? Знайшоў ці не?

-Ого, колькі тут манет панасыпана. Каторую вам?

*Алесь Касцень*

# ЛЯСНЫ СПЯВАК



Адразу пасля вайны жыў у вёсцы Масленікі Юзэф Калтан. Рукаты быў, працавіты. Хадзіў ён па навакольных вёсках, абутак рамантаваў, боты шыў. А калі дзе ў вёсцы танцы, ці вяселле, дык ніколі не адмаўляўся сыграць на скрыпцы. Казалі, што лепшага музыкі ні ў Лынтупах, ні нават у Свянцянах не знайшлося б.

Ішоў другі дзень калядных святаў. Юзэф вырашыў аднесці ў Вялічкі пашытыя боты, яшчэ дасвяточны заказ. У Вялічках удзячныя заказчыкі запрасілі Юзэфа за стол.Пачуўшы, што ў вёску музыка завітаў, сабралася моладзь. Да позняй начы то ў хаце, то на дварышчы спявала Юзэфава скрыпка, чуўся гоман, смех моладзі, чуўся стук абцасаў. Пасля паўночы нарэшце ўгаманіліся. Але перад тым, як разысціся, кожны лічыў сваім абавязкам запрасіць музыку пераначаваць у яго хаце. Час быў неспакойны , у лясах хадзілі яшчэ бандыты. Ды і за вайну развялося процьма ваўкоў, якія, не баючыся, нападалі не толькі на хатнюю жывёлу, але і на людзей. Ды толькі Юзэф вырашыў ісці дахаты.

Развітаўшыся з вяскоўцамі , ён пакрочыў па заснежанай дарозе. Разгарочаны ад ігры, ад выпітага, ён і не заўважыў, як за спіной засталіся Вялічкі, пасля Ажурайсці. Вось і лясок невялікі перад Казнадзеюшкамі. Прыдатнае мейсца для бандытаў. Схамянуцца не паспееш, як убачыш ля свайго носа рулю аутаматам ці стрэльбы. Таму Юзэф збочыў з дарогі і пайшоў лесам.

У лесе было цёмна. Бухматыя елкі, укруціўшыся ў свае снегавыя футры, нагадвалі то страшэнных істот з апраметнай, то постаць чалавека, які затаіўся, то драпежнага звера. Але вось сярод дрэў паказаўся прасвет, павеяла чалавечым жытлом. Гэты пах вельмі яўна адчувае адзінокі падарожнік у заснежанай пустэчы. У ім разам змешваюцца пахі сена, дыму, гною, поту жывёлы і невядома чаго яшчэ, але знаёмага з дзяцінства.

Юзэф уздыхнуў з палёгкай і шырока пакрочыў на пах жытла. Але раптам з трэскам пачало ламацца галлё, усё навакол закруцілася...

Юзэф паварушыўся. Балелі левае плячо і калена. Паліла шчаку. Яшчэ нічога не разумеючы, ён глянуў уверх.Над галавой , у вышыні было рванае колца неба. У грудзях пахаладнела. "Ямаваўкоўня"—зразумеў Юзэф і адразу адчуў, што ў яме ён не адзін. У цемры насупраць яго блішчэлі жахлівыя зялёныя вочы. «Воўк» – мільганула думка. Пераджагнаўшыся, ён пачуў гурчанне ляснога драпежніка. Механічна Юзэф пачаў мацаць вакол сябе рукою. Скрыпка. Для абароны не падыходзіць. Потым трапіўся і смычок. І тут як нешта падштурхнула. Ён зайграў нешта жалоснае, пасля і сам не памятаў, што менавіта.Воўк прыціх, некалькі хвілін слухаў музыку, а пасля жалобна завыў у такт мелодыі, як бажыўся пасля Юзэф. Калі Юзэф, трохі прыстаўшы граць, змоўк, воўк лапай дзёр музыку па кажусе, але іклы не выкарыстоўваў. Юзэф павінен быў пачынаць зноў.

Усю ноч цягнуўся гэты незвычайны канцэрт. Музыка граў, а лясны спявак выконваў свае арыі.

Раніцой прыйшлі людзі, убачылі ў яме побач з ваўком чалавека, працягнулі яму вяроўку. Ён абвязаў яе ля свайго стана. І зверху адразу пацягнулі. Толькі ногі музыкі адарваліся ад зямлі—воўк схапіў зубамі кажух і сцягнуў Юзэфа ўніз. Некалькі разоў спрабавалі выцягнуць музыку. Але воўк кожны раз сцягваў яго назад. Прычым, хапаў ён як навучаны сабакавыратавальнік, не зрабіўшы чалавеку нават драпіны. Тады людзі павінны былі выцягнуць першым ваўка, нейк накінуўшы на яго пятлю.

Здзіўленыя такімі паводзінамі драпежніка, яны адпусцілі яго ў лес. Калі ж небарака-музыка апынуўся наверсе і змог расказаць, што з ім здарылася, людзі зразумелі, што калі б не воўк. Які не даваў Юзэфу заснуць і прымушаў праз немагчымасць граць і граць, дык чалавек проста замерз бы ў яме—ён жа быў на добрым падпітку. Фактычна воўк не толькі пацешыў сябе музыкай ды паспяваў, але і выратаваў чалавека.

Гэту гісторыю расказвалі потым доўга на Лынтупшчыне. Жывая яна і цяпер, і ўжо ўнукі тых людзей расказваюць яе сваім дзецям.

*Алесь Гарбуль.*

ІГАР ПРАКАПОВІЧ

# КАЛЯДНЫЯ ВЕРШЫ

***

З чыстым сэрцам дарога
У каляднай начы, -
Ты малітву да Бога
Сярод зор прашапчы.

Сціхне вецер калючы,
Стане цемра цяплей, -
Толькі словам гаючым
Сваё сэрца сагрэй.

І лягчэй пойдуць ногі,
Вочы ўбачаць святло,
І адыйдзе з дарогі
Напужанае зло.

Ты ўбачыш, як ружы
Пад снягамі цвітуць,
І як сонца са сцюжных
Вырываецца пут.

Тваё сэрдца адчуе
Незвычайны прастор –
Яно з Богам вандруе
Між галактык і зор.

Будзе чыстай дарога
У каляднай начы.
Ты малітву да Бога
Сярод зор прашапчы…

***

Светлым ранкам
напярэдадні Каляд
Памаліцца я пайду ў царкву,
Папрашу ў Бога радасных
свят
Для людзей, з кім на
планеце жыву.

А пад вечар буду есці Куццю
І з удзячнасцю радню
ўспамінаць.
За магчымасць усміхацца
жыццю
Буду шчыра “дзякуй Богу!”
казаць…

***

Зімняя ноч. Сцюжа
Неба снягамі кружыць,
Грае ў трубе вецер
Незразумелы джаз.
Мы, дзякуй Богу,дома.
Нам тут усё знаёма.
Бог не пакінуў нас.

Чуеш, мароз мацне,
Ноч на вачах чарнее,
Снег перастаў і зоркі
Сыпяцца за акном.
А ва ўтульнай хаце
Музыкай ціхай шчасце
Кружыцца над сталом.

Бо за сталом святочным
Разам бацькі і дочкі,
І напаўняе хату
Звонкі дзіцячы смех.
Што нам патрэбна ў свеце?
…Божа, дай шчасця дзецям
Як дзедмарозаў мех.

Зімняя ноч. Сцюжа
Зоркі ў акне кружыць,
Грае ў трубе вецер
Музыку для душы.
Нам тут усё знаёма.
Мы, дзякуй Богу, дома.
Добра на свеце жыць…

***

Паляціць душа птушкай
белаю
У той вырай, дзе радасць
бясконцая,
Каб збіраць там шыпшыну
паспелую
Без плутонія, радыя,
стронцыя.

Застанецца тут цела ссівелае
Ды хаціна з забітымі
вокнамі,
След схавае сцяжынка
ўтравелая
Ў дзікім садзе з чарэшнямі
соннымі.

А душа з чарадою буслінаю
Паляціць у краі невядомыя.
Цела ж хутка абернецца
глінаю,
Потым ягадай стане
ядомаю.

Мы далёка ляцім і
вяртаемся,
Бо нам дома шыпшына
смачнейшая.
Паміраем і зноў
нараджаемся
З кожным разам да сонца
бліжэйшыя.

***

папрасі ў неба зорку –
хай Сусвет яе адпусціць
да цябе ў тваю хату
запаліць табе святло

папрасі ў неба сонца
для душы сваёй халоднай,
каб знайшла яна нарэшце
у бязмежжы цеплыню

папрасі ў неба вечнасць,
каб замець сабе
бясконцасць,
каб убачыць край Сусвету
і сканчэнне ўсіх часоў
папрасі ў неба Бога,
каб было каму маліцца,
каб Ён мог цябе суцешыць
у бясконцасці тваёй

а калі ўсё надакучыць,
папрасіся сам на неба…

АЛЕСЬ КАСЦЕНЬ

# ТРЫ ВЕРШЫ

## Беларуская тарка

На гэтай тарцы шмат маёй крыві,
І абдзіраў пазногці, хоць дарослы.
Нібыта ўсё звычайна, міла, проста,
Але і тут абачліва жыві.
І калі хочаш клёцку раніцой,
Альбо спажыць з патэльні смачны дранік,
Каб зноў сябе балюча не параніць—
За бульбіну трымайся малайцом.
А гэта ж тарка – спадчына твая,
Яшчэ дзядуля біў калісьці дзіркі.
Але і сёння поле – востра, зырка,
Бы тарачка зусім і не свая.
Твая яна ад веку і далей.
І як бы ты брыкліва ні цураўся,
Ты з ёю назаўсёды ўжо пабраўся,
Хоць светам шмат прыладаў весялей.
На гэтай тарцы шмат чыёй крыві,
Народ пераціраўся тут вякамі
І сэрцамі найболей, не рукамі.
Заплач, але туды-сюды плыві.
Такі з вякоў славуты наш бальшак.
І дзіркі набіваць сабе мы рады.
І са здзіўленнем, жалем ці пагардай
Глядзяць наўкола ўсе на бульбаша.

X X X

У гэтай вёсцы не бывае ціха.
То вецер вые, то дажджы шумяць,
То вараннё збіраецца на ліха,
Ды столькі, што аж хрысціцца кума.

Кума шукае па кустах квактуху.
Кусты трывожна лісцем шамацяць.
І цягне ў небе высака і суха
Замежны лайнер лад свайго быцця.

Праводзіць гул, не гледзячы , бабуля.
Яе вачам той крыжык не відаць.
А вёску зноўку гукі агарнулі—
Цкуе свой трактар выпіты бядак.

У гэтай вёсцы выйсці з хаты ночы:
Ледзь чутна стогне састарэлы дах.
Такая цемра – не патрэбны вочы.
Ці ўсё ты чуеш тут, залётны птах?

X X X

Старажытныя грэкі
Віно разбаўляді вадой.
Мелі рацыю, пэўна,
Бо гэта прынада такая,
Ад якой патыхае
Не толькі няўдачай рабой
Але нават бядой,
Калі шмат таго зелля
глытаеш.

Старажытныя грэкі,
Раба напаіўшы свайго,
Да натоўпу вялі яго:
Бачыце, гнюса якая.
Мы ж свабодныя людзі,
Няўжо мы пад мноствам
багоў
Будзем так напівацца,
Што нават і годнасць знікае?

Старажытнаму грэку
Скажу са свайго забыцця:
Вы віно разбаўлялі,
Віно блаславёнай Элады…
Ды каб вашым віном
Надзяліў Бог на тыдзень хаця –
Я б яго разбаўляў,
Смакаваў бы без вашай
парады.

Старажытнаму грэку,
Які не шкадуе раба,
Я заўважу: а раб той –
Магчыма, адзіным
збавеннем
І было яму п'янства,
Бо што ён у свеце прыдбаў?
Вось чаму блаславёным
Мы лічым сваё ап'яненне.

# З НОВЫМ ГОДАМ?

Уявім, што прайшоў роўна год пасля таго, як адбыўся Вялікі выбух, калі, ўласна, і пачаў утварацца той свет, які зараз існуе вакол нас (для гэтага трэба прыняць 500 гадоў за адну секунду). Тады падзеі будуць развівацца прыблізна так:

1 студзеня, час 0.00 – Вялікі выбух
10 студзеня – утварэнне галактык,
9 верасня – утварэнне Сонечнай сістэмы,
14 верасня – утварэнне Зямлі,
25 верасня – узнікенне жыцця на Зямлі,
9 кастрычніка – з'яўленне бактэрый і сіне-зялёных водарасцяў,
1 снежня – абагачэнне атмасферы кіслародам,
16 – снежня – з'яўленне шкілетных арганізмаў,
19 снежня – першыя рыбы,
20 снежня – расліны сушы,
23 снежня – першыя дрэвы,
26 снежня – першыя млекакормячыя,
28 снежня – першыя кветкавыя расліны, вымiранне дыназаўраў,
29 снежня – першыя прыматы,
31 снежня, час 22, 30 – першыя людзі,
зараз – поўнач...

# АБ'ЯВЫ

Прапаў вялікі чорны дыпламат. Таго, хто знойдзе, просім вярнуць яго ў пасольства Нігерыі.

У Чорным моры знойдзена цікавая помесь залатой рыбкі з акулай. Яна выконвае тры апошнія жаданні злоўленага ёй турыста.

Самую вялікую ў свеце пераднавагоднюю яешню падрыхтавалі работніцы Бабруйскай птушкафабрыкі № 1, калі ім выдалі зарплату яйкамі. Яешня заняла увесь дырэктарскі кабінет, усе сцены, столь, падлогу і касцюм дырэктара.

Мяняю часовае месца работы на пастаяннае ў доме адпачынку.

За сем кіламетраў ад санаторыя "Бурштын" мясцовыя краязнаўцы знайшлі скалу, дзе Вася яшчэ ня быў.

Прадаецца сабака разумнейшы за паляўнічага.

Патрабуюцца лабаранты па догляду за малпамі (без адукацыі)

Экзамена не будзе. Усе білеты прададзены.

## МЯСЦОВЫЯ АНЕКДОТЫ

Экскурсавод, праводзячы групу ля Нарачы, расказвае: "Існуе такая народная прыкмета: калі адсюль відаць супрацьлеглы бераг, то будзе дождж".
"А калі не відаць?" – пытаецца адзін цікаўны турыст.
"Значыць дождж ужо ідзе" , - спакойна адказвае экскурсавод.

***

Прачытаўшы ў газеце "Шыпшына" паведамленне пра балдуцкае Дзіва, што жыве ў азёрах заказніка "Блакітныя азёры", адзін мінскі навуковец вырашыў першым вывучыць гэту таямнічую пачвару. Прыехаўшы ў вёску Вайшкуны, ён звярнуўся да мясцовага жыхара:
-Скажыце, калі ласка, калі гэты змей звычайна з'яўляецца?
-Ну, часцей гэта бывае ў суботу пасля лазні. І не раней пя-тага стакана.

***

Вечар. Час пік. Пастаўскі гарадскі аўтобус, як і заўсёды ў такі час, набіты біткам. Жанчына з вельмі салíднымі грудзямі, сама таго не жадаючы, штурхае аднаго нягеглага мужыка. Той, натуральна, пратэстуе:
-Жанчына, не штурхайцеся, прашу вас!
-Ды я не штурхаюся. Я дыхаю.



## ЗАМЕЖНЫЯ АНЕКДОТЫ

### АНГЛІЯ

Ледзі заве лакея:
-Вы зараз паедзеце да маёй свякроўкі ў бальніцу, яна вельмі цяжка хворая, і даведаецеся пра яе самаадчуванне.
Лакей паехаў і вярнуўся праз тры гадзіны.
-Ну як? Вы былі ў бальніцы? Запыталіся, як яна сябе адчувае?
-Так, мадам.
-Добра, можаце ісці.

### СЯРЭДНЯЯ АЗІЯ

Ідзе турыст па гарах і бачыць: чабан гуляе ў карты з баранам.
-Што, твой баран такі разумны, ў карты гуляе?
-Ды не, які ён разумны, - пакуль што толькі два разы выйграў.

### ПЕКЛА

Мужыку далі прафсаюзную пуцёўку ў пекла.Два тыдні ён весяліўся без памяці: віно, жанчыны, оргіі. Калі вярнуўся, то кінуўся ў райскае пасольства і папрасіўся ў пекла на пастаяннае месца жыхарства. Адпусцілі. А ў пекле – адразу на патэльню. Ён пачаў лямантаваць, а яму кажуць:
-Ня трэба блытаць турызм з эміграцыяй.

# А ці знаёмыя вам твары?

Пад Новы год прынята ўсміхацца. А чаму б і не ? Усміхнёмся разам з чытачамі і мы. На гэту старонку мы папрасілі рэдактараў пастаўскіх незалежных газет, найбольш вядомых аўтараў прынесці свае фотаздымкі часоў маленства. Так яны выглядалі дваццаць, трыццаць, сорак, а то і больш гадоў назад. Наперадзе ва ўсіх савецкае – акцябрацка-піянерска-камсамольскае – дзяцінства. Ды не выпетрала тагачасная ідэалогія з душаў самага натуральнага і самага чалавечага імкнення: жыць не па загадах і ўказах, а так, як жывуць ва ўсім цывілізаваным свеце—па законах гуманізму, сумлення, веры.

Ну а хто ёсць хто – няхай паразважае сам чытач. Скажам толькі, што на гэтых здымках рэдактар газет "Сумежжа" і "Крэсы" Міхал Гіль, рэдактар газеты "Сяброўка" Тамара Храпавіцкая, рэдактар газеты "Прававое акно" Марына Яголда, журналіст Алесь Касцень, журналіст і паэт Ігар Пракаповіч, журналіст Уладзімір Шык, дызайнер і вярстальшчык газеты Валеры Чавусаў.

З новым тысячагоддзем, стагоддзем, з 2001-м годам вас, дарагія сябры!


















